„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

«Кожны чалавек можа збудаваць сэнс жыцця толькі на сваёй індывідуальнасці, гэта значыць на такіх якасцях і ўласцівасцях, якія належаць толькі яму, якія фармуюць яго тоеснасць і з'яўляюцца асновай яго адносін да свету рэчаў, людзей, прыроды і каштоўнасцей». Гэтыя словы польскага сацыёлага Яна Шчэпаньскага ўзяў прафесар Ежы Нікітаровіч у эпіграф для сваёй ляўдацыі ў гонар Лявона Тарасэвіча, выступаючы ў ролі прамоўтара ў працэсе прысваення сусветнай славы мастаку звання доктара *honoris causa* Універсітэта ў Беластоку. Цырымонія прайшла 22 чэрвеня гэтага года. Была надзвычай урачыстай і хвалюючай не толькі для галоўнага героя падзеі. Усе выступоўцы падкрэслівалі, што прафесар Тарасэвіч заслужыў гэтага ганаровага звання сваім талентам і працавітасцю, унёскам у польскае і сусветнае мастацтва, але таксама грамадскай актыўнасцю на беларускай ніве. Паколькі цяжка пераацаніць значэнне Лявона Тарасэвіча для беларускай грамады Польшчы, вяртаемся да тае велічнае падзеі і прапануем Вашай увазе поўны тэкст ляўдацыі праф. Ежы Нікітаровіча.

І заахвочваем знаёміць вучняў з мастацтвам Лявона Тарасэвіча. Гэта заўсёды эстэтычная асалода, але і вялікі інтэлектуальны выклік. Як гэта зрабіць? – знойдзеце прыклады ў часопісе. Аліна Ваўранюк прапануе сцэнарыі ўрокаў, якія знаёмяць з сучаснымі беларускімі мастакамі: Маргарытай Дмітрук, Мірославам Здрайкоўскім, Руфінай Базловай і, зразумела, Лявонам Тарасэвічам. Сцэнарыі прызначаныя для вучняў ад чацвёртага па восьмы клас, з улікам іх уражлівасці і ведаў.

У нумары знаёмім з новым падручнікам па беларускай мове для пятага класа «Блізкія словы», аўтарства Аліны Ваўранюк, і дададзеным да яго дыскам з песнямі, якія можна і трэба выкарыстоўваць на ўроках. Блізкімі сэрцу словамі і вобразамі напоўненая кніжка Анны Руты і Тамары Карнілюк «Баба Аня». Яна можа натхніць на цікавыя заняткі з моладдзю, скіраваныя на адкрыванне бясцэнных скарбаў найбліжэйшага нам асяроддзя.

Спадзяюся на плённае выкарыстоўванне «Беларускага настаўніка». Чытайце і распаўсюджвайце свой часопіс!

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Наша праца не была дарэмнай



Мікола ВАЎРАНЮК



Уваход ва ўтульны дом **Марыі Чабан** (дзявочае прозвішча **Янкаў**) на ціхай крынкаўскай вуліцы Стары Двор — праз веранду. Шмат гадоў была гэта адначасова майстэрня яе мужа Яна, таксама настаўніка-пенсіянера. Гасцей віталі тады сотні каляровых выразаных з дрэва птушак. Здароўе пану Яну не дазваляе ўжо займацца сваім хобі. Дык і на верандзе стала менш колераў. Як быццам экзатычныя птушкі паляцелі ў вырай, а мясцовыя стаіліся на мэблі і за кветкамі.



Вучаніца пачатковай школы Марыся Янкаў з настаўніцай Казімерай Філановіч

**— Гэта Ваша родавае гняздо ці мужа?**

— Нічыё. Мы купілі гэты дом у 2000 годзе.

**— А раней дзе жылі, па школах?**

— Апошнія гады да пераезду ў Крынкі, у дзевяностыя — ужо ў сваёй кватэры, у пасляпэгеэраўскім блёку ў Шудзялаве. Было там няўтульна... Янак ужо тады быў на пенсіі і ездзіў у Астравок, дзе ў школьным будынку, у памяшканні бібліятэкі, якую я раней зрабіла, займаўся сваёй разьбой. А раней мы там, пры гэтай школе жылі, калі працавалі ў Астраўку. Мы, трое дзяцей, а кватэра 43 метры...

— ... і ўсюды вільгаць, — уваходзіць пан Ян, які адарваўся ад цырымоніі пахавінаў брытанскай каралевы ў тэлевізары, каб запрапанаваць нам каву або гарбату. — Раз то вады мусіць вядро з тапчана выціснулі.

— Ну так, у тым будынку было шмат канструкцыйных хібаў і недапрацовак, — тлумачыць пані Марыя. — І збудавалі яго практычна на багне. Ніхто на гэта не глядзеў. Выбралі месца паміж Астраўком і Піражкамі, каб не пакрыўдзіць ні аднае з гэтых вёсак.

— І мы неяк там абжыліся, — дадае Ян Чабан, — трымалі курэй, свіней, нутрый.

**— Вы абое настаўнікі. Пазнаёміліся ў школе?**

— Так, але працавалі ў розных школах. Я ў Паўночным Востраве, а Янак у Новым...

**— ...то тады дзве школы былі практычна ў адной, хай і вялікай, вёсцы?**

— Не, гэта не адна вёска. Фармальна былі тры мясцовасці: Паўночны, Паўднёвы ды Новы Востраў. У апошняй былі толькі чатыры класы. А школ тады ў наваколлі было многа. У Гуранах, Талькоўшчыне, Плебаноўцах, Крушынянах, Сухінічах, Кнышэвічах, Мінкаўцах, Бабіках, Вярхлессі, Баратыншчыне. Дарэчы, Янак з Баратыншчыны, а настаўніцкую працу пачынаў у Вярхлессі. Пасля войска трапіў у Плебаноўцы, а затым у Новы Востраў, дзе быў кіраўніком. Калі мы павянчаліся ў 1971 годзе, то ўжо працавалі разам у Паўночным Востраве. Там таксама жылі ў школе. У старым драўляным будынку



Мама

былі дзве кватэры, у адной жыў кіраўнік школы Мар'ян Філановіч з сям'ёй, у другой — мы.

**— Чаму Вы жылі ў школе? Вы ж вярнуліся ў родную вёску.**

— І так, і не. Я сапраўды выхавалася ў Востраве, але нарадзілася ў Беларусі, у мясцовасці Гошава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Справа ў тым, што мама была ў час вайны на прымусовых работах у Германіі. Пасля таго яе, як беларуску, вывезлі на ўсход. Я там і нарадзілася. А ў Польшчу змаглі мы прыехаць толькі ў 1957 годзе. Тут я адразу і пайшла ў школу. Дарэчы, мая мама таксама нарадзілася далёка ад Вострава, ажно ў Тамбове. Было гэта ў 1918 годзе, у бежанстве. Калі было ёй васямнаццаць месяцаў, памерла яе мама. Выхоўвала яе сястра мамы, цётка Галена. І мы, калі вярнуліся ў Востраў, жылі ў хаце цёткі, ці для мяне ўжо бабкі Галены. Мама ёю апекавалася. А калі я пайшла вучыцца ў Педагагічны ліцэй у Бельску, каб зарабіць на маё ўтрыманне, няньчыла дзяцей, між іншым у салісткі «Лявоніхі» Любы Тамчук, з якой мы потым яшчэ доўга падтрымлівалі цёплыя кантакты.



Вучаніцы першага класа Педагагічнага ліцэя ў Бельску перад інтэрнатам (1965 г.)

Праўда, я пасля ліцэя магла жыць у хаце бабкі Галены (гэта заадно была і наша хата, бо збудавалі яе ў 1938 годзе бабка і мама разам), але ведаеце, як гэта выглядала ў вёсцы. Ад суседак нічога не схаваеш, а я хацела мець крыху самастойнасці. І не скрываю, думала, што дзякуючы пэўнай дыстанцыі, адасобленасці буду мець больш павагі. Хутка аднак зразумела, што гэтага найлепш дабіцца саліднай працай.



Дэлегацыя школы на закладцы краевугольнага каменя пад фабрыку Unitra у Бельску.



Мар'я Янкаў на спартыўных спаборніцтвах

**— Чаму Вы пайшлі вучыцца ў Бельск? Гэта ж з падкрынкаўскай вёскі свет дарогі.**

— Па сутнасці ў Педагагічны ліцэй паслаў мяне кіраўнік Мар'ян Філановіч. Ён быў з Шудзялава, а яго жонка Ніна з Азяранаў. Мар'ян, акрамя іншых прадметаў, вучыў беларускай мове. Штогод ездзіў на настаўніцкія курсы ў Мінск. Вельмі любіў гэта. Там добра нашых прымалі, засялялі ў гатэль, акрамя заняткаў арганізавалі фуршэты, танцы. Казаў мне: *Za parę lat przyjdziesz na moje miejsce.*

**— Так і сталася.**

— Не зусім. Праўда, я вярнулася ў сваю школу, але ж не на месца Філановіча. Мы працавалі разам, ён надалей быў кіраўніком (затым дырэктарам), а я настаўніцай. Працавалі з намі Рэгіна Радэль, якая была маёй настаўніцай у пачатковай школе, а чытаць і пісаць па-польску навучыла мяне яшчэ да школы, Мікалай Гаспэрчык і Галіна Плоньска.

А з ліцэем то напачатку ў мяне такое атрымалася. Паступалі мы туды разам з каляжанкай і яна неўзабаве атрымала інфармацыю, што яе не прынялі. А мне нічога не пішуць. Я хвалююся, але не ведаю, што рабіць, дзе пытацца. У мяне быў дзядзька ў Акруговай аптэчнай палаце ў Беластоку, Кунах, які быў знаёмы з дачкой дырэктара беларускага ліцэя Яраслава Кастыцэвіча, таксама аптэкаркай. Мы з ім паехалі ў Бельск і нават спаткаліся з Кастыцэвічам. Ён мне сказаў: «Не хвалюйся дзетка, усё роўна будзеш вучыцца ў Бельску, калі не



Матура

там, дык у нас. Аднак, калі табе нічога не прыслалі, значыць, прынялі цябе ў Педагагічны ліцэй». Так і было.

**— Вы трапілі ў беларускі ці польскі клас?**

— Беларускі. Маёй першай выхавацелькай была Лідзія Гайдук. Вельмі сімпатычная настаўніца. Памятаю, калі што якое, пытала: «А што ў вас, дзяўчаты?». Напрыклад, як каторая спозніцца або, як аднойчы мы з дзвюма сяброўкамі з-пад Крынак смяяліся з таго, як гавораць пад Бельскам.

**— Дзе Вы жылі, у інтэрнаце ці кватэру здымалі?**

— У інтэрнаце. Насупраць польскага ліцэя, на вуліцы Навоткі, стаяў такі драўляны будынак. Ужо яго няма. Там былі вялікія залы, адна на дваццаць ложак, у ёй і жылі першакласнікі. Потым я перайшла ў крыху меншую — на адзінаццаць ложак. Перад заняткамі трэба было залы папрыбіраць, памыць драўляную падлогу, заслаць ложкі белымі прасцінамі. І ў кухні дзяжурылі. А па суботах і нядзелях самі сабе варылі ежу, пад наглядам кухаркі. Неяк спраўляліся і не сумавалі, хаця тады ж яшчэ і па суботах вучыліся. Я мела час і ў гарцэрстве дзейнічаць, і спортам займалася — з лука страляла. На спаборніцтвы па цэлай краіне ездзіла, нават раз узяла пятае месца ў Польшчы.

**— Многа здымкаў у Вас з Бельска.**

— Я вельмі добра ўспамінаю Бельск. А найбольш здымкаў зрабіў калега Міхал Зіневіч, на год маладзейшы, які практычна не выпускаў апарата з рук. Ён фатаграфаваў як звычайнае жыццё, так і ўрачыстасці. Напрыклад 1 Мая, калі ўся школа выходзіла на паход. Звярніце ўвагу як нас апраналі. Усе дзяўчаты ў аднолькавых белых блузках. Брунеткі ўплялі ў валасы чырвоныя банты, а бландзінкі — сінія.

**— А гэтая група ў народным адзенні? Нейкі калектыў?**

— Не. Раней, праўда, у школе быў калектыў, але ў той час ужо не існаваў, але касцюмы засталіся. Нас у іх апранулі і паслалі на закладку краевугольнага каменя фабрыкі *Unitra*. Выбралі групу самых



Са сваімі вучнямі


Шлюб з Янам Чабанам у царкве ў Паўночным Востраве

стройных вучняў, каб мы на ўрачыстасці прадстаўлялі школу.

Весела жылося ў Бельску. Шмат чаго тады адбывалася, многа было моладзі. Я ўвесь


Дачушка Ася перад школай у Паўночным Востраве

час, пяць гадоў, атрымлівала стыпендыю. З гэтых грошай аплачвала інтэрнат і яшчэ адкладала ці то на экскурсію, ці вандроўны лагер. Раз у год мы абавязкова кудысьці ездзілі. Я выбірала вандроўны лагер, бо быў таннейшы. Я і навакольныя вёскі добра пазнала, бо дадому было далёка, то я карысталася запрашэннямі сяброўак. Мне і працу пасля ліцэя прапанавалі каля Бельска.

— **Вы ўсё-такі вырашылі вярнуцца на Сакольшчыну.**

— Я можа і засталася б у Бельску. Наймацней мяне трымала там стральба з лука. Заняткі ў клубе былі на высокім узроўні, не сорамна было ездзіць на спаборніцтвы і галоўнае, мне гэта падабалася. Але працу мне прапанавалі ў школе ў Зубаве. Мне там не хацелася жыць, а даязджаць з Бельска — хоць і недалёка — тады было нязручна. А Мар'ян Філановіч чакаў у Востраве. І я вярнулася.

— **Каторы гэта быў год?**

— Свой першы клас атрымала я ў 1969/70 навучальным годзе. Займалася я пачатковым навучаннем, класамі I-IV. Потым стала вучыць таксама польскай мове, а яшчэ пазней і беларускай. Нават цяжарнай з Асяй удзельнічала ў чытацкім конкурсе пра Другую сусветную вайну, ездзіла ў Бельск, дзе ўзяла другое месца. І таксама была два разы на настаўніцкіх курсах у Мінску. Але тады пабачыла змену падыходу дырэктара да беларускай мовы. Калі ён вучыў (яго ўлюбёная прымаўка: «У нас найбольшае свята, каб наесціся багата»), дык заахвочваў дзяцей хадзіць на ўрокі, а калі я стала вучыць, то ён казаў бацькам: *Kto chce, niech chodzi.*

— **Я думаю, што гэта не дырэктар памяняў падыход да беларускай мовы, а змянілася палітыка партыі. У 1970-я гады Польшча ўзяла курс на аднанацыянальную дзяржаву. І ён хоцькі-няхоцькі мусіў у яе ўпісвацца.**

— Магчыма.

— **А як у Вас праца атрымлівалася адразу пасля ліцэя?**

— Мусіць някепска. Візітатарка ацэньвала мой урок польскай мовы і паставіла пяцёрку. А калі пачала хваліць, то Мар'ян Філановіч сказаў: *Oj, żeby nie przedobrzyć!* Гэта быў сёмы год маёй працы. Пасля гэтай ацэнкі я атрымала ўзнагароду міністра адукацыі. Праз пару гадоў зноў мне яе прысудзілі. І куратoрыя мяне шмат разоў узнагароджвала. А раз, у якасці ўзнагароды, давялося паехаць мне цягніком дружбы, які ішоў праз Мінск, Маскву, Ленінград, Вільню. Вельмі добра ўспамінаю гэтую экскурсію.

— **Не адны асветныя ўлады звярнулі на Вас увагу, але і будучы муж.**

— З Янкам мы сустрэліся на настаўніцкай канферэнцыі ў яго роднай вёсцы Баратыншчыне. Ён не адпусціў і павянчаліся мы 7 лістапада 1971 года ў царкве ў Паўночным Востраве. Там пазней ужо і разам працавалі аж да 1978 года, калі перабраліся ў Астравок. Там працаваў Янкаў брат, Генік, і то ён нас заахвоціў да




Настаўнікі і вучні перад Пачатковай школай у Астраўку.



На настаўніцкіх курсах у Мінску

змены школы, тым больш, што якраз дырэктарка Зоя Юрылік звольніла кватэру. Якраз у той час Янак канчаў вышэйшую адукацыю, а як ён закончыў, тады штудзіраваць пачала я. Так мы дамовіліся.

— **Што Вы паканчалі?**

— Янак музыку з пачатковым навучаннем — тры гады ў Гданьску. А затым яшчэ два гады педагогікі ў Жэшаве. Я пяць гадоў вывучала бібліятэказнаўства, спалучанае з навуковай інфармацыяй, у Варшаўскім універсітэце, а потым яшчэ два гады геаграфіі на паслядыпломных студыях у Лодзі. Там набыла я кампетэнцыі, каб займацца турызмам. Я нават працу пісала пра выкарыстанне татарскага шляху ў турыстычным развіцці рэгіёна.

— **Вучыліся завочна?**

— Так, трэба было ездзіць на сесіі. Час быў гарачы. Бачыла студэнцкія забастоўкі ў 1980 і 1981 гадах. Праўда, мы завочнікі ў іх не ўдзельнічалі, трымаліся збоку. У Варшаве начавала ў гатэлі ЗНП (Саюза польскіх настаўнікаў). Памятаю, як заехалі ў снежні 1981 года, а там няма месцаў, бо ўсе заняло войска. Пераначавалі з Оляй Давідзюк з Гайнаўкі ў знаёмых на Празе, рана прачынаемся, а ў тэлевізары генерал Ярузельскі: ваеннае становішча. Гарадскі транспарт не працуе, а нам жа на экзамен трэба! Давай мы пехатою, праз мост Панятоўскага, дабірацца ў цэнтр. А там вайсковыя патрулі — страшна!




Дачка Ася з сяброўкамі ў школе

— **Шчасліва вярнуліся дадому?**

— Так, нейкі транспарт усё ж працаваў. Я з таго часу памятаю такую цяжкую атмасферу. Па Крынках таксама хадзілі патрулі *ORMO* (Добраахвотны рэзерв грамадзянскай міліцыі), была міліцэйская гадзіна.

— **Вайна, не вайна, жыць і працаваць трэба.**

— І мы працавалі найлепш як умелі. Не толькі вучылі, але і выхоўвалі. У палове васьмідзясятых гадоў вярнулі навучанне беларускай мове. Апрача ўрокаў арганізавалі экскурсіі, вандроўныя лагеры. Памятаю, я заўсёды брала такога хлопца з беднай сям'і, каб ад'еўся.

— **Аж такая бяда была?**

— Тады ніхто багата тут не жыў, але не галадалі. Ён быў са спецыфічнай сям'і. Такое ўсюды і заўсёды можа здарыцца.

— **У той час у Астраўку не было навучання беларускай мове?**

— Не было. Мы ўвялі беларускую мову ў школу ў 1985 годзе. Памятаю, як прыехаў журналіст Беластоцкага радыё Уладзіслаў Праховіч, а я якраз хворая была, то давала яму інтэрв'ю лежма. Цяжка было, праблемы з падручнікамі і дапаможнікамі. І не было ахвоты ў дзяцей. Калі я была ў мацярынскім водпуску, заступаў мяне Генік Чабан. То ён браў нашага Пётрака з кватэры, вёў у клас і чытаў яму «Ніву» ці нейкія казкі. Здаралася, што нікога больш не было, толькі ён адзін.

— **А як Вы сталі дырэктаркай?**

— Я казала, што мы пераехалі ў Астравок, бо дырэктарка адышла са школы і звольніла кватэру. Год абавязкі выконваў Янак, але ён не меў такіх амбіцый, ніколі нават за дадатковыя гадзіны не змагаўся.

— Я ў той час быў камендантам гміннага гуфца ЗГП (Саюза польскіх гарцэраў у Шудзялаве, — кажа пан Ян. — Так што абавязкаў мне і без дырэктарства хапала.

— Потым школы ў Астраўку спалучылі з Паўночным Востравам і Шудзялавам



Шлюб сына Пятра; царква ў Васількаве

у адну. Дырэктарам гэтага комплексу стаў Мар'ян Філановіч, але неўзабаве захварэў. Ну і ён стаў мяне намаўляць. Я кажу, што не магу быць, бо не партыйная (была запісалася, калі Маркоўскі з Саколкі прыехаў у Паўночны Востраў і сказаў, што не ад'едзе, пакуль мы ўсе не запоўнім дэкларацыі, але потым аддала партыйны білет), а ён, што нічога. Я згадзілася, асветныя ўлады адобрылі маю кандыдатуру. Відаць бачылі, што маладая, актыўная — я ў школе сапраўдную бібліятэку стварыла — палічылі, што перспектыўная. Дзве кадэнцыі была, потым не схацела. Грашовы дадатак за дырэктарства быў невялікі, несувымерны з абавязкамі. Прыйшлося мне, напрыклад, ехаць ажно ў Быдгашч, каб купіць школьны аўтобус. Бо як ліквідавалі школы ў Талькоўшчыне, Баратыншчыне, Востраве, то сталі вучняў да нас давозіць такой прычэпай за трактарам — будай, як у нас казалі. Я яшчэ была і гмінным асветным інспектарам, а гэта была вельмі няўдзячная функцыя. Было так, што заедзеш у вясковую школу, а там настаўнікі п'яныя... Пра гэта, аднак, не хочацца гаварыць.

— **А пазней Вы авансавалі ў Шудзялава. Як ні круці — сядзіба гміны.**

— Аванс заключаўся ў тым, што было толькі больш працы. Там была хоць і мураваная, але старая, яшчэ царская школа. Мне прыйшлося будаваць новую, гэтую, якая цяпер. Праблем было вельмі многа. Бухгалтарка, якую таксама звалі Марыя, часам гаварыла з чорным гумарам: «Дзве Марыі пойдуць сядзець за гэтую школу». Дзякуй Богу, так не сталася. Прабыла я, як ужо казала, дырэктаркай дзве кадэны і ў 2002 годзе пайшла на пенсію. З-за сямейнай сітуацыі. Апошнія тры гады мая мама не ўставала, дык мне трэба было штодзень ездзіць, даглядаць. І жылі мы ўжо з 2000 года ў Крынках, цяжка было. Так сталася, што я закончыла працу ў чэрвені, а мама памерла ў жніўні. Але ўжо мне вяртацца ў школу не схацелася. Тым больш, што Янак па прычыне стану здароўя таксама быў ужо на пенсіі з 1997 года. Вось так і жывем, двое настаўнікаў-пенсіянераў.

— **Праз Вашы рукі прайшлі сотні, калі не тысячы вучняў. Пэўна рашучая іх большасць пайшла ў шырокі свет. Ёсць у Вас з імі кантакт?**

— Так, пішуць мне на фейсбуку. Віншуюць з днём нараджэння. І як бачаць, то вітаюцца. Калісьці спаткала я на вуліцы хлопца, які быў слабым вучнем, а ён мне пачаў расказваць, як добра склалася яго жыццё: закончыў прафтэхвучылішча, пачаў працаваць, мае кватэру з тэлефонам, машыну. Цяпер гэта не гучыць неяк надзвычайна, але гэта было столькі гадоў таму назад. Памятаю таксама, як на якімсьці вяселлі аказалася шмат маіх былых вучняў, то абступілі мяне, расказвалі пра сябе, дзякавалі. Яны сталі настаўнікамі, лекарамі, чыноўнікамі, банкірамі, журналістамі... Значыць, наша праца не была дарэмнай.

— **Безумоўна. Дзякуй за размову.**

**Размаўляў Мікола Ваўранюк**

# Лявон Тарасэвіч

## — ганаровы доктар Універсітэта ў Беластоку



Мікола ВАЎРАНЮК

Гэта была імпазантная ўрачыстасць. 22 чэрвеня гэтага года ў глядзельнай зале Аддзялення навукі пра адукацыю (у мінулым педагагічнага) Універсітэта ў Беластоку сабраўся свет навукі, мастацтва і палітыкі. Сярод дастойных гасцей прысутнічаў былы прэм'ер-міністр Польшчы і старшыня Рады Еўропы Дональд Туск. Прафесары ўніверсітэтаў і мастацкіх акадэміяў, студэнты і грамадскія актывісты рэгіёна, паклоннікі творчасці Лявона Тарасэвшча, яго знаёмыя, сябры, блізкія. У фае прэзентавалася рэтраспектыўная выстава Маэстра.

**Лявон ТАРАСЭВІЧ** — адзін з самых выдатных сучасных мастакоў Польшчы. Аўтар многіх індывідуальных выстаў і ўдзельнік групавых па цэлым свеце. За сваю творчасць атрымаў шматлікія ўзнагароды, між іншым Прэмію імя Яна Цыбіса, Прэмію Фонду Зофіі і Ежы Навасельскіх, Прэмію імя Ежы Гедройся, Прэмію імя праф. Аляксандра Гейшіара, прэмію імя Цыпрыяна Каміля Норвіды. Лаўрэат Пашпарту тыднёвіка «Палітыка» і Прэміі стагоддзя *ZaiKS* (асацыяцыі, якая абараняе аўтарскія правы). Прафесар Акадэміі мастацтваў у Варшаве, якую закончыў (з адзнакай: выдатна!) у 1984 годзе.

Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Валілах-Станцыі. Пасля акадэміі вярнуўся ў роднае старонне, жыве і працуе ў Валілах, у былой вясковай школе, якую грунтоўна адрамантаваў пад дом і майстэрню. Вялікую частку сядзібы займаюць вальеры — любоў да птушак у Тарасэвіча з'явілася яшчэ ў дзяцінстве і дагэтуль займае важную частку яго жыцця. З маладосці актыўны ў беларускім грамадска-палітычным руху. Старшыня Фонду Віла Сакратас, які спрыяе развіццю высокай беларускай культуры.

Грамадская актыўнасць, вернасць беларускім караням, перакоўванне лакальнага ў агульначалавечае, узбагачэнне польскай культуры спадчынай Вялікага Княства Літоўскага — гэта тыя якасці жыцця і творчасці Лявона Тарасэвіча, якія паўплывалі на прысваенне ягму ганаровым дактаратам Універсітэта ў Беластоку. Прапануем Вашай увазе слова прамотара Тарасэвіча ў гэтым працэсе, прафесара Ежы Нікітаровіча.

**Białystok 10.06. 2022**

## Laudacja z okazji nadania Profesorowi doktorowi habilitowanemu Leonowi Tarasewiczowi Tytułu Doktora *honoris causa* Uniwersytetu w Białymstoku

Magnificencjo Rektorze, Szanowni Państwo Prorektorzy,
Wysoki Senacie,
Szanowni Państwo Dziekani, Dyrektorzy Instytutów, Państwo Recenzenci,
Doktoranci, Studenci,
Szanowni Goście, Panie i Panowie, Uczestnicy uroczystości,
a przede wszystkim Szanowny Panie Profesorze,
Dostojny Doktorze Honorowy,
Szanowna Rodzino, Przyjaciele Doktora Honorowego

*Motto*
Każdy człowiek może swój sens życia wyprowadzić
tylko ze swojej własnej indywidualności, tzn. z tych cech
i właściwości, które są tylko jego, które decydują o jego
tożsamości i które są jego podstawą odniesienia do spraw
świata rzeczy, ludzi, przyrody i wartości.
J. Szczepański, Zapytaj samego siebie...

Szanowni Państwo,

W nawiązaniu do decyzji Senatu Uniwersytetu w Białymstoku z dnia 26 stycznia 2022 roku w sprawie wszczęcia postępowania o nadanie tytułu doktora honoris causa Uniwersytetu w Białymstoku prof. dr. hab. Leonowi Tarasewiczowi, przypadł mi wyjątkowy zaszczyt, przyjemność i honor wygłoszenia w imieniu Senatu naszego Uniwersytetu laudacji na cześć Profesora Leona Tarasewicza z okazji nadania tytułu doktora *honoris causa*.

Żyjemy w trudnych czasach, nie tylko akademickich. Nasze myślenie, działanie, nasza tożsamość została naruszona niezrozumieniem kreowania idei i zasad demokracji, irracjonalnością, tragedią wojny, a akademicka tożsamość zdominowana została przez parametryzację, wskaźnikowanie, różne rywalizacje, algorytmizacje, indeksacje itd. Stąd taka uroczystość pozwala nam chociaż na moment oderwać się — uświadomić wartości ponadczasowe, uniwersalne, uniwersyteckie. Pozwala uświadomić, że są wartości, które trwają i napawają nadzieją i ufnością. Jestem przekonany, że przetrwają, gdyż one stanowią rdzeń, podstawę — niezniszczalną twardą pestkę naszej tożsamości akademickiej. Te wartości i zasady nadają sens naszego istnienia i działania, wyznaczają trajektorie naszych akademickich biografii.

Taką jest właśnie dzisiejsza uroczystość, w roku, w którym obchodzimy 25-lecie naszego Uniwersytetu.

Wprowadzamy w dniu dzisiejszym w poczet doktorów honorowych naszej Alma Mater Profesora Leona Tarasewicza, wybitnego twórcę o wielkim dorobku artystycznym, co wykazali i zaprezentowali wszyscy recenzenci.



Фота Аліны Ваўранюк

*

W pierwszej kolejności pragnę wskazać, a następnie uzasadnić, że prof. dr hab. Leon Tarasewicz na niniejszą godność w pełni zasługuje i podkreślić, że przyjęcie tytułu doktora *honoris causa* przez prof. dr. hab. Leona Tarasewicza przynosi zaszczyt naszemu Uniwersytetowi.

Promując Profesora Tarasewicza do najwyższej godności uniwersyteckiej chcę podkreślić, że Jego działalność wpisuje się w misję naszego Uniwersytetu, że ją rozbudowuje, wzmacnia i wspiera, kształtuje i rozwija. Świadczy o tym między innymi nagroda „Rzeczpospolitej" w roku 2017 im. Jerzego Gedroycia (doktora *honoris causa* naszego Uniwersytetu), za niestrudzoną pracę na rzecz dobra wspólnego, kultywowanie pamięci o dziejach Wielkiego Księstwa Litewskiego, wielki wkład w promocję Polski na świecie jako państwa wielu narodów, kultur i religii. Także nagroda im. Cypriana Kamila Norwida w roku 2019 za wystawę „Jerozolima", prezentowaną w galerii Foksal, za odkrywanie nowego oblicza malarstwa. Wcześniej, w 2007 roku, Nagroda Fundacji Kultury za konsekwentne rzucanie wyzwania zarówno tradycyjnemu rozumieniu malarstwa, jak i wszelkim

konwencjom rozumienia sztuki. Jego monumentalna praca była częścią polskiej prezentacji w Dubaju podczas Wystawy Światowej EXPO 2020. Swoje prace prezentował w uznanych polskich, europejskich i pozaeuropejskich galeriach. Brał udział w kilkuset wystawach zbiorowych w kraju i za granicą. Jego prace znajdują się w wielu znaczących kolekcjach w Polsce i w różnych miejscach świata. Stąd znalazł się wśród najwybitniejszych twórców polskiej kultury, wśród przyjętych w poczet Członków Honorowych Stowarzyszenia Autorów ZAIKS.

Jestem przekonany, że nikt nie ma wątpliwości, że Profesor Leon Tarasewicz, profesor sztuk plastycznych, zatrudniony w warszawskiej Akademii Sztuk Pięknych, na Wydziale Sztuki Mediów, wcześniej na Wydziale Malarstwa, to jeden z najbardziej rozpoznawalnych współczesnych malarzy, który zbudował swój własny przekaz w sztuce. Od 2009 roku jest Honorowym Ambasadorem naszego województwa podlaskiego i sądzę, że logo naszego województwa Jego autorstwa zna każdy mieszkaniec, poczynając od przedszkolaka. Chciałbym także zauważyć, że w roku 1997, czyli 25 lat temu, w roku powstania naszego Uniwersytetu, miała miejsce wystawa prac Profesora w naszym Uniwersytecie, w Galerii „Stotrzynaście". Powstała ona z inicjatywy studentów na Wydziale Pedagogiki i Psychologii, na Wydziale, którego wówczas byłem dziekanem, w miejscu, w którym się obecnie znajdujemy i w którym możemy podziwiać obecnie wystawę prac Profesora po 25 latach. Doświadczyłem także wielkiej przyjemności, od której minęło już ponad 25 lat; na okładce książki „Edukacja międzykulturowa. W kręgu potrzeb, oczekiwań i stereotypów" pod moją redakcją, książki z I Międzynarodowej Konferencji z zakresu Edukacji Międzykulturowej, wydanej przez „Transhumanę", znajduje się obraz Leona Tarasewicza bez tytułu, akryl, płótno, z 1991 roku.

*

Uniwersytety, oprócz swoich podstawowych funkcji, znanych wszystkim, podejmują się także promowania wartości intelektualnych, artystycznych, społecznych, wskazują na wybitne postacie i kreują wzory osobowe i autorytety w określonej dziedzinie. Godność doktora *honoris causa* nadaje się w celu wyróżnienia postaci szczególnie zasłużonych dla określonej dziedziny, dla rozwoju kultury regionu, kraju, wspólnoty cywilizacyjnej, dla osób wspierających rozwój młodego pokolenia itp.

Laudację na cześć kandydata do tytułu doktora *honoris causa* naszego Uniwersytetu, Profesora Leona Tarasewicza, zaopatrzyłem w motto, słowa profesora Jana Szczepańskiego. Przywołane w charakterze motta słowa Jana Szczepańskiego oddają, moim zdaniem, w pełni życiorys Profesora Leona Tarasewicza, proces kształtowania się Jego tożsamości w zakresie dziedziczonym, społecznie i kulturowo kształtowanym, a przede wszystkim indywidualnie kreowanym i realizowanym, z charakterystycznym stylem nieuznawania granic, potrzebą ich przekraczania, jak wskazywał, przełamywania schematów, uwalniania się od ograniczeń. Ten zakres indywidualny tożsamości jest szczególny u artysty. W rozmowie z Małgorzatą Czyńską powiedział:

*„... Cały czas mam ten luksus, że jestem artystą. Z jednej strony traktują cię inaczej, może nie do końca jak psychicznie chorego, ale niezbyt serio. Z drugiej strony daje*

*to dużą dozę tolerancji, nikt się nie wtrąca."* W tejże rozmowie Małgorzta Czyńska przypomniała, że Profesor w pracy doktorskiej podkreślił *„Wierzę, że dopóki człowiek będzie przyswajał nowe idee, dopóty będzie przekraczał kolejne granice poznania".*

Przedstawiając sylwetkę Profesora Leona Tarasewicza, jako Osoby szczególnie godnej tytułu doktora *honoris causa* naszego Uniwersytetu, posłużę się klasyfikacją rodzajów autorytetów w nauce autorstwa Jana Szczepańskiego. Zwrócę uwagę na kontekst małej ojczyzny, potrzebę zakorzenienia, istotę miejsca — przestrzeni oswojonej, na kreowanie życiodajnego efektu pogranicza kultur. Profesor Tarasewicz uruchomił bowiem, moim zdaniem, egzystencjalny motyw radości życia, wprowadził w życie i stosuje zasadę bycia w zgodzie z sobą, niezbywalnym zakresem tożsamości dziedziczonej, jej podstawą-podwaliną, na której kształtował i kształtuje indywidualne odczytywanie świata i tworzenie sztuki. Bazując na wartościach, symbolach, wzorcach własnej wspólnoty najczęściej musiał „płynąć pod prąd". Mobilizując innych do bycia sobą, dając przykład jak być sobą, budził u jednych podziw i szacunek, u drugich niechęć, a nawet wrogość. Sądzę, że egzystencjalne źródło udręki i niemocy przezwyciężał realizując się w wielu wymiarach tożsamości, kreując wspólnoty, przyjaźnie, realizując zainteresowania, zamiłowania, hodując kury ozdobne, inicjując działalność więziotwórczą itp. **Pierwszy rodzaj, to autorytet zdobyty dzięki wybitnym osiągnięciom twórczym, wytężonej pracy, wybitnym zdolnościom.**

W kontekście tego rodzaju autorytetu można prezentować i analizować oryginalny, imponujący dorobek poczynając od funkcjonowania w Liceum Sztuk Plastycznych w Supraślu, Akademii Sztuk Pięknych Warszawie (magister sztuki z wyróżnieniem z w zakresie malarstwa w 1984 roku, kolejne stopnie naukowe, tytuł profesora sztuk plastycznych w 2011). Należałoby jednak podjąć namysł nad tym, skąd taka twórczość i taki dorobek? Nie mam wątpliwości, że tożsamość Profesora Leona Tarasewicza wyrasta ze wschodniego kręgu kulturowego, z bagażu treści, które odziedziczył, które wydobył i zauważył z przekazu pokoleniowego jako osoba szczególnie wrażliwa na naturę. Stąd ta kolorystyka i przestrzeń naszego regionu pogranicza, terenów WKL. Podkreśla w swoich wypowiedziach — wywiadach, że artyści właśnie z tych terenów wzbogacili sztukę światową siłą kolorów przyrody. Wskazuje, że jego malarstwo jest w całości efektem otwarcia na naturę i jest nią inspirowane. Zdolności Profesora, talent, zasługi dla kultury tkwią w tym, że idee świata naszego pogranicza, które były znane na Zachodzie, wróciły dzięki Niemu do nas z powrotem. Jego sztuka to czyni przybliżając nas, uświadamiając nam znaczenie wspólnoty WKL, mistyki tego wielokulturowego świata. W imieniu społeczności akademickiej dziękuję za to, za lekkość i całą paletę kolorów, swobodę operowania nimi, za doznania estetyczne, symbolikę, ładunek mistycyzmu, wyzwolenie wyobraźni, możliwość kontemplacji, spoglądania z innej perspektywy, zawsze otwartej i nieskończonej.

Na szczególne uznanie i szacunek zasługuje równolegle prowadzona, wytężona praca zawodowa i pełne, świadome zaangażowanie w kreowanie tożsamości białoruskiej, udział w pracach samorządu lokalnego, w podejmowaniu wielu inicjatyw indywidualnie i w ramach działających stowarzyszeń i organizacji pozarządowych (malarstwo, narodowe dziedzictwo, działalność na rzecz lokalnej społeczności, ornitologia).

Drugi rodzaj autorytetu wskazany przez profesora Szczepańskiego **to autorytet osiągnięty przez stworzenie szkoły naukowej lub artystycznej, kształcenie uczniów.**

Profesor Leon Tarasewicz kształtował swój indywidualny styl wypowiedzi i funkcjonowania; w sztuce, w życiu codziennym, w relacjach z innymi, w pracy, w zachowaniach i działaniach, w reagowaniu na określone warunki, sytuacje. Wypracował i stosuje w pracy ze studentami zasadę wychodzenia poza granice tego, czego się nauczyliśmy, potrzebę rezygnowania z nauczonego na rzecz tworzenia nowego. Żeby tworzyć trzeba nauczyć się oduczać powielania, pewnych nawyków i przyzwyczajeń, które z pewnością nie tylko w sztuce są szczególnie uciążliwym balastem. Stąd najbardziej się cieszy z osiągnięć swoich uczniów, gdy ukazują w swoich pracach własną tożsamość. Problemem istotnym, związanym z powyższym, na co zwraca uwagę, są wyzwania i zadania szkoły w zakresie nie niszczenia samodzielności, a wyzwalanie pomysłów, wyobraźni, odwagi, inspiracji itd.

Profesor debiutował w „Dziekance", pracowni otwartej na działania alternatywne w sztuce, kontestującej oficjalne instytucje kultury, jeszcze przed dyplomem. Następnie Galeria Foksal itd. W moim odczuciu, to co zasługuje na szczególne uznanie w tym rodzaju autorytetu, to budowanie autorytetu poprzez wzbudzanie kontrowersji, poprzez przeciwstawianie się strukturom formalno-administracyjnym, które zamykają świat pomysłowości i twórczości. Wskazywał w rozmowie z M. Czyńską: *„Żeby być artystą trzeba budować siebie i swoją sztukę na jakimś fundamencie".* Tym fundamentem była duchowość przestrzeni odziedziczonej i od dzieciństwa oswajanej w długotrwałym procesie zakorzenienia się u siebie, które było zapleczem i z którego można było wykrzesać samodzielność, inicjatywę, kształtować własną, niezależną tożsamość tak istotną wobec samotności artysty w kontekście jego rozumienia i porozumienia z nim. Z pewnością tym fundamentem oprócz dziedzictwa rodzinnego był profesor Jerzy Nowosielski i Sokrat Janowicz.

Można byłoby tak analizować kolejne autorytety wskazane przez Szczepańskiego. Trzeci, **związany z zajmowanymi stanowiskami i związanymi z tym umiejętnościami organizacyjno-administracyjnymi, merytorycznymi, zdolnościami inicjowania działalności w różnych zakresach.** Należałoby ukazać tu bezinteresowne zaangażowanie Profesora w rożnych zakresach życia, jego kompetencje i zaangażowanie, w czwartym **wskazać na autorytet moralny,** Jego rzetelność, pracowitość, pryncypialność, dążenie do prawdy i bezpośrednie świadczenie prawdy. W piątym zaś, **społecznym**, ukazać wykorzystywanie swojej wiedzy, umiejętności i zdolności do rozwiązywania kwestii społecznych, służenia radą, pomocą, zwrócić uwagę na role przywódcze itp. (radny gminie Gródek z ramienia Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego powstałego w 1990 roku, współpomysłodawca i współorganizator Festiwalu Muzyki Młodej Białorusi „Basowiszcza"). O Jego zaangażowaniu i nie opuszczaniu rąk wobec wielu problemów, które podejmował i rozwiązywał świadczy między innymi wypowiedź w rozmowie z M. Czyńską: *„Trzeba było przełamywać także debilizmy, schematy. Naukowcy nie chcieli pisać nam do tej gazety, mówili, że nie będą jakimiś gminnymi historykami. No to ja sam pisałem o Chodkiewiczach, robiłem syntezę z książek".*

Wskazane rodzaje autorytetów uzupełniłbym autorytetem, który dotyczy **kultywowania kultury przodków, rewitalizacji tej kultury, czy jak mówi Profesor, odkopywanie świata białoruskiego na Białostocczyźnie razem z innymi**.

Moim zdaniem ten rodzaj autorytetu jest szczególny. Fakty z życia Profesora, jego zaangażowanie, bezkompromisowe zachowanie i działania w zakresie obrony najistotniejszych elementów kultury białoruskiej na naszym pograniczu, są wymiernym i efektywnym świadectwem kształtującym ten autorytet. Wymowne i znane jest, że język białoruski i inne elementy kultury białoruskiej, które przedstawił w wielotomowym dziele *„Lud białoruski..."* Michał Fedorowski nie znajdowały uznania w Polsce Ludowej. Profesor w rozmowie z M. Czyńską wskazał, że w czasach Jego dzieciństwa i młodości z językiem białoruskim wiązało się poczucie strachu i wstydu. Sam prosił matkę o wypisanie z nieobowiązkowej nauki języka białoruskiego, gdyż wolał grać w piłkę.

Zwracałem wyżej uwagę na siłę i prężność kreowania tożsamości indywidualnej Profesora, odporność na zawłaszczenie tożsamościowe przez system ideologiczny poprzedniego ustroju, na działania edukacyjne motywujące do rezygnacji z dziedzictwa przodków. Przebudzenie się z narodowego uśpienia tożsamościowego miało miejsce głównie w czasie studiów. Wówczas świadomie i odpowiedzialnie budował w sobie białoruską tożsamość i działał w Białoruskim Zrzeszeniu Studentów. Kształtował świadomość narodową bazując na wiedzy, wyciszając emocje, studiując i porównując historię narodów pogranicza kultur, oddzielając od narodowości religię, gdyż w każdym narodzie są zawsze różne wyznania, a chrześcijaństwo na nasze ziemie docierało zarówno z Bizancjum jak i z Rzymu. Jak wskazywał w rozmowie z M. Czyńską, konieczność odbudowywania białoruskiego świata wynikała z potrzeby jego rozumienia. *„Bo nic mi nie pasowało. ... W szkole co innego, w domu co innego. Pamięć ludzka, doświadczenia — jedno, a drugie to odgórnie narzucona narracja"*.

Profesor realizuje się mieszkając u siebie, w Waliłach, zajmuje się sztuką, ornitologią. Odbudował lokalną historię, poczucie dumy z języka i kultury białoruskiej. Prezesuje Fundacji „Villa Sokrates" gromadząc wokół siebie wiele osób zaangażowanych w ciągłość pracy podjętej przez Sokrata Janowicza.

*

Wielce Szanowny Panie Profesorze, za wszystkie wybitne osiągnięcia, za zasługi związane z kształtowaniem i rozwojem kultury, na co tylko w niewielkim zakresie zwróciłem uwagę, Uniwersytet w Białymstoku pragnie nadać Ci najwyższą godność doktora *honoris causa* i wpisać nadanie tytułu do Księgi Doktorów *honoris causa* naszego Uniwersytetu. Jako społeczność akademicka czujemy się zaszczyceni i wyróżnieni. Jest Pan bowiem przykładem utożsamiania się z wartościami uniwersalnymi, kreowania norm i wartości na bazie własnego dziedzictwa, wzbogacania siebie i innych zaangażowaniem społecznym i twórczością, tworzenia nowych pól-obszarów dla nowych doświadczeń kolejnych pokoleń. Mobilizuje Pan do prowadzenia ustawicznego dialogu wewnętrznego i zewnętrznego, uczy tego dialogu w społecznościach, mobilizuje do myślenia, intensywnego wysiłku intelektualnego, ukazuje jak ważne są zainteresowania

i zamiłowania, ich realizacja, jak istotne jest rozumienie natury, życie w zgodzie z przyrodą, która nas otacza, jak istotna jest świadomość jej rozumienia i wspierania jej przez kulturę, którą człowiek tworzy i uczestniczy w niej.

Jestem przekonany, że swoją pracą i działalnością mobilizuje Pan innych do odbudowywania duchowości współczesnego człowieka, zgodnie ze wskazaniem Cycerona — że szlachetne umysły karmi praca. Swoją twórczością, zaangażowaniem społecznym, bogatą tożsamością, nadaje Pan znaczenie kategorii mądrości i pracy intelektualnej, chroniąc przed arogancją i bezmyślnością, myśleniem irracjonalnym, antyintelektualnym, antypoznawczym, niszczącym tożsamość odziedziczoną i naturę człowieka powiązanego z kulturą świata zakorzenienia.

Godność doktora honorowego to nie tylko uznanie i wyrażenie szacunku w stosunku do Pana Profesora, to jest jednocześnie radość z uznania naszej Uczelni przez Pana Profesora, naszej wspólnoty, dobrych relacji, naszej wspólnej misji w procesie kreowania kultury naszego kraju, Europy i świata.

Pozwólcie Państwo, że laudację zakończę słowami Romana Ingardena z „Książeczki o człowieku", gdzie zwrócił uwagę, że działanie człowieka twórczego, a takim niewątpliwe jest Profesor Leon Tarasewicz „*... polega na tym, że wywalcza realizację wartości. ... a walczy nie ze względu na nagrodę za bohaterstwo, lecz tylko jako człowiek świadomy prawdziwej wartościowości wartości, którą stara się zrealizować*".

Życzę Panu Profesorowi realizacji takich wartości, planów, marzeń i zamierzeń, dalszej twórczej aktywności, inspiracji i siły w realizacji kolejnych wyzwań i zadań, zdrowia i pomyślności, odporności w pokonywaniu przeciwności w tym trudnym czasie kryzysu wartości, o które Pan ustawicznie dbał, kształtował i realizował.

Białystok 10.06. 2022

**Jerzy Nikitorowicz**

**Ежы Нікітаровіч** — (нар. у 1951 г. у Мельніку на Падляшшы) педагог, прафесар гуманітарных навук, былы кіраўнік Кафедры міжкультурнай адукацыі Універсітэта ў Беластоку, у 2005-2012 гадах рэктар Універсітэта ў Беластоку.

# Кніжка з душою



Мікола ВАЎРАНЮК

*Na zielowi, mnie zdajecce, szto u nas na wioscy wsie po trochu znaliś i korystaliś pry usiakich chworobach. Mene zielom zacikawiła i nazwała wone po-naszomu Baba Ania.*

Так пачынаецца кніжка «Баба Аня» — дыпломная праца **Анны Руты Карнілюк** у Мастацкім ліцэі ў Супраслі з тэкстамі яе мамы **Тамары**. На мове роднай вёскі Рэпіскі на Гайнаўшчыне.



— Калі я пачала думаць пра дыплом, быў час пандэміі, дыстанцыйных заняткаў, — расказвае **Анна Рута**. — Цяжка мне было што-небудзь прыдумаць. Адна з тэм была такая: «Інспірацыя рэгіёнам». Я падумала, што раслінныя матывы для мяне заўсёды былі важныя. Маю маму, якая вельмі любіць зёлкі і вельмі многа пра іх ведае. Таму я падумала пра зельнік. Па-першае, мне будзе прыемна яго рабіць, а па-другое, мая мама зможа мне шмат у чым дапамагчы.

— З дзяцінства памятаю, калі балеў жывот, то мама парыла палын або ішла ў клуню, выцягвала з сена конскае шчаўе і таксама парыла, то табе паможа, — расказвае **Тамара**. — На раны прыкладалі бабку. Зімою на прастуду парылі маліннік або ліпу, каб разагрэцца. Я, як бібліятэкарка, заўсёды многа чытала кніжак. Пасля студыяў стала многа чытаць пра зёлкі, каб неяк сістэматызаваць хаатычныя веды з дзяцінства і яшчэ пра іх больш дазнацца. Здзівіла мяне, што Нюта ўспрымае мяне як экспертку. Я ніколі такою сябе не адчувала. Жыла на вёсцы, вакол усюды былі зёлкі. Жыву ў Супраслі, дзе таксама іх поўна, тым больш што ўжо за плотам пачынаецца лес.

*A pałyn to my na meżach zbirali. Oj wuon tak miocno i huorko pachne! Baba Ania nazywała joho apecitnym zielom. Ścinali, bo wuon ne je krechki, werchni czaści, suszyli na hory i zaparuwali małym dzieciom na apetyt, abo jak żywuot boliew, czy od robakuw.*

— Памятаю, як у маёй братавай не гаіўся палец, — расказвае **Тамара Карнілюк**. — Баба Аня пайшла ў лес, назбірала цвету *бэрэзы* (widłak goździsty), прылажыла і памагло. Я тым набіралася з дзяцінства. То не было так, што





Тамара і Нюта Карнілюк

я раптам, у пэўны момант пачала цікавіцца зёлкамі. Мне здаецца, што ў вёсцы ўсе разбіраліся ў зёлках. Лячыліся імі, бо да доктара было далёка. Веды пра іх пераказвалі з пакалення ў пакаленне ў вуснай форме, бо ж ніхто таго не запісваў.

*Ćwietu lipy u nas mnuoho zbirałosie. Rosła takaja welizarna lipa za wioskoju, odna u poli, na zhuorkowi. Z odnoho pnia niby na dwa derewa rozchodziłasia, aż hudzieło od pczuoł jak do jeji pudchodziłoś. A pachło kruhom, aż w hołowie kruciłoś! (...) Oj, nema uże toj hożoj lipy! Ściali jeji, a zdajećcie mnie, z dwieście liet mieła.*

**Тамара Карнілюк:** — Прывезлі на вёску надрукаваныя тэксты і сталі бацькам чытаць, каб выправіць мову, каб была рэпіска. Бо мы ўсё ж такі жывем у горадзе і маем ужо іншую мову. Бацькам спадабалася. Тата сказаў пра *цвітар* (wrotycz), мама штось даказала пра зёлкі. Я спыталася маму, ці магу ўключыць туды бабу Аню, бо то яна мне тыя зёлкі паказала. Яна іх збірала, бо ў Гайнаўцы іх прымалі. Тут усе збіралі. Тады ў кніжку ўдыхнулася душа. Яна зрабілася чымсь больш за кніжку пра зёлкі, за дыпломную працу.

*Miatu dodawali do kwietki, jak swecili ziele na Jana, czy na Splienie. Poduobno jak pałyn używali jeji do okadżuwania chaty jak nebuoszczyk leżau na pokuci. Takowo kob pici, to jeji ne pili. Ani zimnoj, ani żeszkoj jak to teperka pjut. A baba Ania lubiła zorwaci miatu i niuchaci jeji sobie, sidziewszy na ławoczcy z innymi babami, wspominaci toje, szto uże ne wernećcia.*

**Нюта:** — Праект пачаў развівацца. Працаваць мне над ім было вельмі прыемна. Камісія ў маёй школе была захоплена, што хтосьці ў маім узросце можа супрацоўнічаць з мамай пры чымсьці так вялікім на працягу года і не пасварыцца.

**Тамара:** — Напачатку я думала, навошта мяне Нюта ў гэта ўцягнула. А потым

кніжка стала мне важнай. Я прачытала камусьці, спадабалася. Тэксты мне пісаліся лёгка. Цяжэйшай была карэктура. Гэта можна выпраўляць бясконца, а і так у канцы канцоў вылезуць памылкі. Кніжка важная, бо ўдыхнулі ў яе добрыя эмоцыі. Я не думала, што дыпломная праца стане такой важнай прыгодай для ўсіх.

*Dewecisił ruos u nas na wioscy zwyczajno, pud płotom pry hulicy, tam de mokrowato, bo lubit niski miesca. U dewecisilnika leczniczy koreń. Wykopuwali joho oseniu, uże u wereśniu, jak byu czas.Tuolki można było kopaci koreń u dewecisilnika dwuletnioho, mołodszy ne nadawausie. Koreń czyścili, ciali wzdouż i suszyli na leżancy. Musit sochnuci pomaleńku, broń Boże w żeszkuj peczy. Posli zaliwali joho wuodkoj. Musiw postojaci, koli naciahnuło, to po troszku korystaliś, pereważno na kłopoty z żołudkom. W smaku jest welmi hurki. U moho taty Aloszy naliwka z dewecisiłu nikoli ne wychodzit. Powodle joho dewecisił panuje od wsiech chworub i ot tak naohuł na wsio.*

**Нюта:** — Маёй марай было скласці кніжку. Я не думала, што атрымаецца расповед пра вёску, прабабку, звычаі. Я першапачаткова думала пра кніжку толькі пра зёлкі. А атрымалася ў пэўным сэнсе гісторыя маёй сям'і.

«Баба Аня» гэта адна з прыгажэйшых кніжак, якую я трымаў у руках, якая з'яўляецца аздобай нашай хатняй бібліятэкі. Нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што Анна Рута Карнілюк сёлета апынулася на адным з першых месцаў на спіску новых студэнтаў аддзялення графікі Мастацкай акадэміі ў Кракаве. Але, апрача візуальнага боку кніжкі, там ёсць яшчэ прыгожая мова і гісторыі, перададзеныя з незвычайнай любоўю і цеплынёй. А гэта ўжо заслуга Тамары Карнілюк. І сям'і, у якой яна вырасла, дзякуючы якой сапраўды змагла «ўдыхнуць душу» ў кніжку.

*Kozelki mnie wse podobaliś, u jich nasyczany, sireniowy kolor. Zbirała ich na bukiety. Mnuho ich rosło w życi i potym w sterni, po żniwach. Kozelki po prostu hoży, baba Ania howoryła, że na nic ne panujut.*

Гэта мая ўлюбёная гісторыя. Яна вянчае кнігу.

**Мікола Ваўранюк**

Выказванні аўтарак за тэлепраграмай «Беларускі тыдзень» на Польскім тэлебачанні Беласток ад 14.08.2022 г.



# Новы
## падручнік і дапаможнік!

# Пра «Блізкія словы» і дыск з песнямі

З вялікай радасцю паведамляем, што чарговы апрацаваны Алінай Ваўранюк падручнік па беларускай мове атрымаў дзве пазітыўныя ацэнкі. Гэта **«Блізкія словы» для 5 класа пачатковай школы**. Спадзяемся, што яшчэ ў гэтым годзе ён трапіць у рукі пяцікласнікаў і іх настаўнікаў.

Адзін з рэцэнзентаў на падручнік напісаў:

*«Podręcznik wprowadza uczniów w świat wartości, współpracy, solidarności, altruizmu, patriotyzmu i szacunku dla tradycji. Wzmacnia poczucie tożsamości indywidualnej, kulturowej, narodowej, regionalnej i etnicznej. Rozwija kompetencje, takie jak: kreatywność, innowacyjność i przedsiębiorczość oraz umiejętności krytycznego i logicznego myślenia, rozumowania, argumentowania i wnioskowania. Rozbudza ciekawość poznawczą uczniów oraz motywację do nauki. Ukierunkowuje ucznia ku wartościom. Wprowadza uczniów w świat literatury, kultury białoruskiej i w realia funkcjonowania*



**БЕРАЖЫ ПАДРУЧНІК.**

- **Не пэцкай яго, не пішы і не малюй на яго старонках.**
- **Не бяры бруднымі рукамі.**
- **Не загінай ражкі.**
- **Не кладзі ў падручнік аловак ці ручку.**
- **Адзень на яго вокладку.**
- **Памятай, па гэтым падручніку будуць вучыцца і іншыя вучні, яны таксама жадаюць мець прыгожы падручнік.**

3

*mniejszości białoruskiej w Polsce, propaguje wielostronną edukację. Podręcznik wspomaga rozwój ucznia przez wzmacnianie poczucia jego tożsamości kulturowej, historycznej, etnicznej. Kształtuje szacunek do języka ojczystego, wzbogaca świadomość dziedzictwa etnicznego. Pozwala poznać elementy historii, kultury materialnej i duchowej mniejszości narodowej. W podręczniku zostały wykorzystane metody aktywizujące m.in. dyskusja, zadania, które wspomagają rozwój samodzielnego docierania do informacji. Zostały dobrane bardzo ciekawe teksty autorów reprezentujących białoruską mniejszość narodową w Polsce (np. Aleś Barski, Mira Łuksza, Wiktar Szwed)".*

Падручнік пачынаецца зваротам да яго карыстальніка — вучня як карыстацца кніжкай і яе зместам.

У змесце пабачым літары «в» – гэта вершы, «п» – песні, «т» – літаратурныя тэксты, сінім колерам і літарай «г» — граматычныя тэмы.

У падручніку дзесяць раздзелаў. Кожны з іх пачынаецца спісам тэм. Гэта, спадзяемся, дапаможа вучням арыентавацца, чым будуць займацца на чарговых уроках, чаму будуць вучыцца.

Рэцэнзент звярнуў таксама ўвагу на тое, што падручнік мае яснае, зразумелае, цікавае і каляровае графічнае афармленне, адпаведнае ўзросту вучняў. Салідна, як звычайна, папрацаваў над ім тэхнічны рэдактар і аўтар здымкаў і графік Адам Паўлоўскі.

*«Podręcznik może i powinien być dopuszczony do użytku szkolnego, gdyż gwarantuje realizację podstawy*





# Як карыстацца зместам?

## ЗМЕСТ





4

“Каб не быць слабым і хмурым,
не цурайся фізкультуры.”

“Часта мыцца – наша ўмова,
той, хто чысты, – той здаровы.”

“За сталом у нас заўжды
цішыня ў час яды.”

“Дзецям з працай трэба знацца,
памагаць бацькам у працы.”

“Песня з намі не разлучна,
падружыся з песняй гучнай!”

“Хочаш знаць усё і ўсіх –
сябрам будзь цікавых кніг!”

[!]

1. Прачытай усе рыфмаванкі.
2. Да якіх сфер нашага жыцця яны адносяцца?
3. Складзі свае рыфмаванкі пра правілы паводзін у школе.

12



Тэмы:

1. У нас хапае слоў такіх.
2. Нашы летнія канікулы.
3. Склад і націск.
4. Сустрэць можна вучня такога...
5. Рыфмаванкі.
6. Заўважаная памылка.
7. Правапіс «ў» (нескладовага).
8. Змяніць хлопца.
9. Сяброўства.
10. Верасень.
11. Песня «Пахне чабор».

Зміцер Сасноўскі

Вывучы словы песні

## Літвін

Ехаў Літвін ды па Сініх Водах
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Меч крывавячы.

Ходзіў Літвін ой ды па Грунвальду
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Чэпам граючы.

Гойсаў Літвін ой ды па Крапіўне
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Дзідай джалячы.

Скокаў Літвін ой ды пад Смаленскам
Тры дні тры начы,
Тры дні тры начы
Шабляй рубячы.

Кляўся Літвін у святой Дуброве
На старым мячы,
На старым мячы
Чужынцаў сячы.

104

## Чаму?

Ты прачнуўся і зірнуў у акно. А чаму назвалі **акно**? Даўным-даўно ў нашых продкаў было слова **око** (вока). Будыніна, у якой жыве чалавек, мае сваё вока – адтуліну, праз якую відаць свет. Адсюль і пайшла назва. У беларусаў – *акно, вокны*, у рускіх – *окно*, украінцы называюць па-свойму – *вікно*, палякі і чэхі – *okno*.

А вось ты ідзеш у школу. Яна, скажам, у суседняй мясцовасці. Ты выходзіш на дарогу, якую старэйшыя людзі чамусьці называюць **гасцінец**. Але спачатку падумаем, адкуль узялося слова **дарога**. Перш чым пракласці дарогу, звычайна расчышчаюць вузкую паласу ад усяго, што на ёй расце, – выдзіраюць траву, хмыз. Вось ад слова **драць** праз змену галосных і ўтварылася – **дарога**. Дарогі спачатку служылі для праезду гасцей – купцоў, якія прывозілі для абмену свае тавары. Дарогу, па якой ездзілі госці, назвалі **гасцінец**.

125

*programowej, sprzyja rozwojowi tożsamości narodowej uczniów oraz w sposób ciekawy i poprawny metodycznie zapewnia naukę języka białoruskiego jako języka mniejszości narodowej. Podręcznik zawiera współczesne materiały, a jego szata graficzna będzie zachęcać uczniów do zgłębiania tajników kultury, literatury i języka Białorusi oraz małej ojczyzny – Białostocczyzny".*

Стала ўжо традыцыяй, што ў падручніку знойдзем прапановы песень, якія падабрала аўтарка падручніка Аліна Ваўранюк. Іх ажно трынаццаць. Яны таксама запісаныя на дыску. Сярод іх чатыры народныя песні з Беласточчыны і Гродзеньшчыны. Іх спявае Таіса Фёнік. Аранжыроўка дзевяці астатніх песень — аўтарства Паўла Васькоўскага. Іх праспявалі вучні беластоцкіх школ: Кацярына Васькоўская, Рэбэка Каспэрук, Вольга Мазурук, Вольга Сцепанюк, Сафія Чыквін і Аляксандр Хаманюк. Да запісу рыхтавала іх Анна Васькоўская.

## Вось пералік песень:

1–2. **Пахне чабор**, сл. Пятрусь Броўка, муз. Лявон Вольскі

3–4. **Лянок**, сл. і муз. народныя

5–6. **Родны мой горад**, сл. Уладзімір Някляеў, муз. В. Раінчык

7–8. **Песенька палахлівага Зайца**, сл. Леанід Дранько-Майсюк, муз. Анна Бабік

9. **Коледа!**, сл. і муз. народныя

10–11. **Літвін**, сл. Зміцер Сасноўскі, муз. народная

12–13. **Залюляю, як кахаю**, сл. Уладзімір Някляеў, муз. Зміцер Вайцюшкевіч

14–15. **Пагоня**, сл. Максім Багдановіч, муз. Мікола Шчаглоў-Куліковіч

16. **Положу кладку**, сл. і муз. народныя

17–18. **Вожык-патрыёт**, сл. Андрэй Хадановіч, муз. Джон Ленан, Пол Макартні

19–20. **Валачобныя**, сл. і муз. народныя

21. **Там, по маёвуй росі**, сл. і муз. народныя

22–23. **Аксамітны летні вечар**, сл. Сяржук Сокалаў-Воюш, муз. В. Навіцкі

Спадзяемся, што наш новы падручнік і дыск з песнямі спадабаюцца вучням і настаўнікам.



# Тэма: ЯКОГА КОЛЕРУ СНЕГ?



Аліна ВАЎРАНЮК

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць усе словы і словазлучэнні з тэксту,
- ведаюць асобу беларускага мастака Станіслава Жукоўскага,
- ведаюць і ўмеюць запісаць назвы колераў,
- умеюць назваць свае пачуцці,
- умеюць праскланяць слова «снег»,
- умеюць вызначыць настрой верша.

**Формы працы**:

- індывідуальная
- супольная
- групавая

**Метады працы:**

- размова
- практыкаванні
- мазгавы штурм
- гульня
- імпрэсіўная
- экспрэсіўная

**Навучальныя дапаможнікі:** падручнік «Колазварот» тэкст «Якога колеру снег?» с. 63-64, верш «Белая сняжынка» с. 65, карткі паперы, фарбы, слоўнікі, выдрукаваныя рэпрадукцыі «зімовых» карцін Станіслава Жукоўскага https://picryl.com/amp/media/zimovy-pejzazh-vyatka-ratonda-alyaksandraskim-sadze-zhukoski-d5cbaf,

https://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/3/38/Staraja_Vola%2C_%C5%BDuko%C5%ADski._%D0%A1%D1%82%D0%B0%D1%80%D0%B0%D1%8F_%D0%92%D0%BE%D0%BB%D1%8F%2C_%D0%96%D1%83%D0%BA%D0%BE%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96_%28S._%C5%BDuko%C5%ADski%2C_1902%29.jpg

https://commons.wikimedia.org/wiki/Category:Stanislav_Yulianovich_Zhukovsky?uselang=uk#/media/File:%D0%9F%D0%BB%D0%BE%D1%82%D0%B8%D0%BD%D0%B02._1909.jpg

https://be.wikipedia.org/wiki/%D0%A1%D1%82%D0%B0%D0%BD%D1%96%D1%81%D0%BB%D0%B0%D1%9E_%D0%AE%D0%BB%D1%8C%D1%8F%D0%BD%D0%B0%D0%B2%D1%96%D1%87_%D0%96%D1%83%D0%BA%D0%BE%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96,

«Зіма» Вівальдзі.

1. Прывітанне.
2. Кіраваная размова з вучнямі пра зімовае надвор’е.
3. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
4. Пад музыку Антоніо Вівальдзі «Зіма» настаўнік чытае верш Міхася Андрасюка «Белая сняжынка».

*Першую белую сняжынку*
*нясу нясмела у далонях.*
*Яе жыццё — адна хвілінка,*
*яе сястра — сляза салёна.*

*Першая белая сняжынка...*
*Мо ўжо зіма, мо яшчэ восень?*
*Першая белая сняжынка*
*холаду пах з сабой прыносіць.*

*А раніцай да ўсходу сонца*
*снежань гамоніць ля парога.*
*Глядзі, на двары за аконцам*
*белае поле, лес, дарога.*

*Эх, гэта белая сняжынка*
*прыносіць у сэрца неспакой.*
*Яе жыццё адна хвілінка*
*між жоўтай восенню й зімой*

5. Размова з вучнямі пра верш (настрой у вершы). Як вучні разумеюць выразы: «Яе жыццё — адна хвілінка, яе сястра — сляза салёна», «сняжынка холаду пах з сабой прыносіць», «Яе жыццё адна хвілінка між жоўтай восенню й зімой».
6. Падзел вучняў на групы па 3-4 асобы. Задача для кожнай групы: Апішыце сняжынку і выканайце яе партрэт.
7. Прэзентацыя прац кожнай групы.
8. Адказы вучняў на пытанне пра колер снегу. Запіс колераў на дошцы.
9. Настаўнік чытае вучням тэкст «Якога колеру снег?».

Мой любы дружа, адкажы, калі ласка: якога колеру снег?

Белы? Так, белы. Але не заўсёды. Ці прыглядаўся ты да яго

ўважліва-ўважліва? Бачыў, што ён можа быць і шэрым, і ружовым, і блакітным — у залежнасці ад надвор'я і яскравасці сонейка? Вось выйдзеш на вуліцу — паўзірайся ў гэтае снежнае зіхаценне. Яно рознакаляровае! Толькі колеры гэтыя не яркія, а ледзь прыкметныя...

Раскажу табе казку.

Жыла-была Сняжынка. Яна была маленечкая, але вельмі прыгожая. Ёй падабалася, як яна зіхаціць і пераліваецца на сонцы. Калі мама-воблака выпусціла Сняжынку пагуляцца, наша прыгажуня лётала-лётала дый апынулася на галінцы дрэва. Азірнулася навокал і заўважыла хлопчыка, якому было чатыры ці пяць гадкоў. Хлопчык сядзеў на санках і змрочна глядзеў на ўзгорак, што быў паблізу. На тым узгорку дзеці весела і шумна коўзаліся на санках.

— Авоечкі, што ж здарылася? — падумала Сняжынка і скіравалася на шалік хлопчыка.

— Здароў! Чаму ты такі змрочны?

Хлопчык спачатку здзівіўся, што з ім размаўляе нейкая сняжынка, але тут жа ізноў надзьмуўся і непрыхільна адказаў:

— Табе што за клопат?

— Як гэта што за клопат?! Я ж сняжынка! Сняжынкам заўсёды ёсць клопат да змрочных хлопчыкаў, асабліва ўзімку! — захвалявалася Сняжынка.

— Чаму асабліва ўзімку? А ўлетку што — табе будзе ўсё адно, хто змрочны, а хто вясёлы?

— Гэх, ты ж ведаеш, што я растану ўжо вясной, — зажурылася Сняжынка. — Таму мне вельмі важна, каб узімку, калі я яшчэ такая прыгожая і вясёлая, — усе навокал весяліліся разам са мной! Дарэчы, як цябе клічуць?

— Станіслаў мяне клічуць. І я не буду весяліцца! Не люблю тваю зіму! Няхай вунь яны весяляцца! А я не хачу! — бурчэў хлопчык, скасавурыўшыся на дзяцей, што гуляліся на ўзгорку.

— Чаму ж ты так не любіш зіму?

— Яна непрыгожая!

— Як гэта непрыгожая?!

— Яна халодная! І... і нецікавая! Яна толькі белая ці шэрая!

— Ну-у-у, Стасічак... З тым, што яна халодная, я, мажа, і пагаджуся. Дык ты ж цёпла апрануты — табе гэта не страшна. Што да астатняга... Яна вельмі цікавая! Паглядзі, колькі ўсяго навокал! Колькі гульняў ды забавак! Санкі, канькі, лыжы, хакей, снежкі, снежныя гарадкі, можна зляпіць снегавіка, можна... Ды ўжо цікава проста хадзіць па снезе і слухаць, як ён рыпіць пад нагамі! Гэта ж музыка! — Сняжынка аддыхалася і дадала: — І няпраўда, што яна толькі шэрая ці белая! Паглядзі ўважліва на мяне. Бачыш, якая я цікавая і рознакаляровая? Вось гэтая мая галінка — ружаватага адцення, гэтая — жоўценькага, сярэдзінка — блакітнага. А гэтай галінцы — паглядзі, якая смешная — спадабаўся твой шалік! І яна пазычыла ў яго прыгожы зеленаваты колер...

— І сапраўды, — здзівіўся хлопчык.

Яны яшчэ доўга размаўлялі пра зімовыя забавы і колеры...

Кожную зіму сустракаліся Сняжынка і Станіслаў. Неўзабаве хлопчык вырас. Ён стаў мастаком. І вельмі палюбіў маляваць зіму — прыгожую і рознакаляровую.

Паглядзі ўважліва на гэтыя карціны. Гэта рэпрадукцыі твораў вядомага мастака Станіслава Жукоўскага. Пашукай розныя адценні снегу на гэтых выявах.

**10.** Тлумачэнне незразумелых вучням слоў і словазлучэнняў.

**11.** Прэзентацыя «зімовых» карцін Станіслава Жукоўскага.

**12.** Настаўнік расказвае вучням пра мастака Станіслава Жукоўскага.

Жыў у канцы XIX і пачатку XX стагоддзя. Быў жывапісцам і пейзажыстам. Кароткі час вучыўся ў Варшаве, а затым у Беластоку, дзе вучыўся яго старэйшы брат. Менавіта ў вучылішчы Станіслаў з асаблівай ахвотай заняўся маляваннем. Жаданне Станіслава стаць мастаком не падзяляў яго бацька. У якасці пакарання за непаслухмянства свайго сына той часта адсылаў яго на вёску да пастухоў. Штогод Станіслаў Жукоўскі выязджаў на пленэры на Гродзеншчыну, дзе маляваў у сваіх улюбёных жанрах пейзажу і інтэр'еру. Маляваныя ў гэтых мясцінах пейзажы прэзентавалі ў «Захенце» на выставах пад назвамі «Нёман», «Свіслацкая пушча (Белавежская)». У 1937 годзе на зборнай выстаўцы ў «Захенце» Жукоўскі выставіў 20 карцін, прысвечаных культурным традыцыям сваёй радзімы. Апошняя выстаўка мастака адбылася ў сакавіку 1939.

Падчас Другой сусветнай вайны падтрымліваў сувязі з варшаўскім падполлем, быў арыштаваны як удзельнік Варшаўскагя паўстання. Загінуў у лагеры смерці ўвосень 1944 года. Палотны Станіслава Жукоўскага захоўваюцца ў музеях і прыватных калекцыях Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны і іншых краін.

**13.** Папаўненне назваў колеру снегу.

**14.** Вучні скланяюць словазлучэнне «каляровы снег» на дошцы і ў сшытках.

**15.** Падвядзенне ўрока. Якая карціна Станіслава Жукоўскага найбольш табе спадабалася? Абгрунтуй адказ.

**16.** Развітанне.

Урок беларускай мовы — V клас (2 гадзіны) **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: КОЛЬКІ ІСНУЕ КОЛЕРАЎ.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць словы з тэксту «Чорным па белым»,
- умеюць назваць матываваныя і нематываваныя назвы колераў,
- умеюць назваць колеры вясёлкі і свае любімыя колеры,
- пашыраюць свой слоўнікавы запас звязаны з назвамі колераў,
- ведаюць значэнні колераў,
- ведаюць прозвішчы польскіх мастакоў беларускага паходжання.

**Формы працы**:

- індывідуальная
- супольная
- групавая

**Метады працы:**

- размова
- практыкаванні
- мазгавы штурм
- гульня
- імпрэсіўная
- экспрэсіўная

**Навучальныя дапаможнікі:** падручнік для 5 класа, тэкст, рэпрадукцыі выбраных карцін Лявона Тарасэвіча з інтэрнэту, каталогаў мастака або кніжкі «Tarasewicz», слоўнікі, карткі з прозвішчамі мастакоў (Маргарыта Дмітрук, Лявон Тарасэвіч, Міраслаў Здрайкоўскі, Уладзімір Навумюк, Павал Грэсь).

1. Прывітанне.
2. Размова з вучнямі пра любімыя колеры. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
3. Настаўнік чытае вучням тэкст «Чорным па белым».

Колькі існуе колераў? Насамрэч, мастакі і фізікі-оптыкі скажуць, што бязмежная колькасць (але пры гэтым вылучаюць тры або чатыры асноўныя колеры, а чорны і белы не лічаць колерамі, бо чорны — гэта адсутнасць колеру, а белы, наадварот, — змяшэнне ўсіх колераў). Назваў колераў у мове, канешне, абмежаваная колькасць. Прычым для мовы і чорны, і белы — гэта таксама колеры. У розных мовах колькасць колераў можа не супадаць, і гэта адбываецца не таму, што нашы вочы бачаць па-рознаму. Гэта, хутчэй за ўсё, сведчанне актуальнасці тых ці іншых колераў у культуры асобных народаў.

Назвы колераў бываюць нематываваныя з сучаснага пункту гледжання (сёння цяжка вызначыць іх паходжанне) і матываваныя (маюць празрыстую форму). Нематываваныя, натуральна, з'яўляюцца ў большасці сваёй самымі старажытнымі. Да такіх назваў колераў адносяцца, напрыклад, белы, чорны, зялёны, сіні, шэры, жоўты і іншыя. Матываваныя назвы, адпаведна, па сваім паходжанні вытворныя і ўзніклі пазней: карычневы ад слова *карыца*, салатавы ад *салата*, бэзавы ад *бэз*, ружовы ад *ружа*, валошкавы ад *валошка* і г.д.

Сімвалічным спалучэннем колераў з'яўляецца вясёлка. Можна лёгка запомніць колеры і іх паслядоўнасць у вясёлцы, выбраўшы і завучыўшы адну з падказак на свой густ.

Чыж аддаў жуку загад: брат, схавай фотаапарат.
Чэшскі пан жадае зноў бачыць сорак фазаноў.
Чаму птах журботны зранку? Бо сапсута філіжанка.

Такім чынам, першыя літары слоў адсылаюць нас да назваў колераў у вясёлцы: чырвоны — аранжавы (памаранчовы) — жоўты — зялёны — блакітны — сіні — фіялетавы. Нельга пераацаніць сімвалічную ролю колераў. У беларускай міфалогіі, фальклоры, этнаграфіі, паводле даследаванняў, існуюць тры асноўныя (белы, чырвоны, чорны — універсальная колеравая трыяда) і чатыры дадатковыя колеры (жоўты, зялёны, сіні, шэры). У адзенні ж беларусаў пераважалі два колеры — белы і чырвоны. У народнай культуры кожны з колераў меў некалькі значэнняў.

***Белы*** — пачатак, жыццёвая сіла, а таксама пустэча, бесцялеснасць, нараджэнне новага і знікненне старога.

***Чырвоны*** — жыццё, кроў, агонь, узнаўленне, здароўе, ваяўнічасць, а таксама крывавая небяспека, парушэнне гармоніі, смерць і яе пераадоленне.

***Чорны*** — распад, ноч, сон, адсутнасць свядомасці, смерць.

***Жоўты*** — нешта чужое, хвароба, смерць, разбурэнне.

***Зялёны*** — маладосць, зменлівасць, няспеласць, актыўнасць, развіццё.

***Сіні*** — аддаленасць ад чалавечага свету, чужароднасць, неба, мора.

***Шэры*** — зменлівасць, няяснасць, туманнасць, змешанасць.

Мова нанова: 20 крокаў да беларускай мовы, 2 частка

4. Тлумачэнне незразумелых вучням слоў і словазлучэнняў.
5. Размова з вучнямі пра матываваныя і нематываваныя назвы колераў, пра колеры вясёлкі. І пра сімвалічную ролю колераў.
6. Падзел вучняў на групы па 3-4 асобы. Задача для кожнай групы: Разгледзьце карціну вядомага польскага мастака беларускага паходжання Лявона Тарасэвіча. Якімі колерамі карыстаецца мастак? Прыдумайце да карціны загаловак.
7. Прэзентацыя прац кожнай групы — расказ пра карціну і абгрунтаванне прыдуманага загалоўка.
8. Падзел вучняў на пяць груп. Задача для групы: Знайсці ў інтэрнэце інфармацыі пра выбранага мастака (Маргарыта Дмітрук, Лявон Тарасэвіч, Мірослаў Здрайкоўскі, Уладзімір Навумюк, Павал Грэсь).
9. Прэзентацыя прац кожнай групы.
10. Падвядзенне ўрока: Адказ на пытанне пра ролю колераў.
11. Развітанне.

**Сцэнарыі ўрокаў** Урок беларускай мовы — VI клас (2 гадзіны )

# Тэма: ВОБРАЗ СТАРАСЦІ Ў ЛІТАГРАФІЯХ МАРГАРЫТЫ ДМІТРУК «ТУТЭЙШЫЯ» І ВЕРШ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ «ДЗЕД».

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- разумеюць галоўную думку верша Ларысы Геніюш «Дзед»,
- ведаюць асобу мастачкі Маргарыты Дмітрук,
- ведаюць асобу паэткі і пісьменніцы Ларысы Геніюш,
- умеюць назваць свае пачуцці,
- умеюць вызначыць настрой верша.

**Формы працы**:

- індывідуальная
- супольная
- групавая

**Метады працы:**

- размова
- практыкаванні
- мазгавы штурм
- гульня
- імпрэсіўная
- экспрэсіўная

**Навучальныя дапаможнікі**: верш «Дзед», літаграфіі Маргарыты Дмітрук «Тутэйшыя», каталогі з працамі Маргарыты Дмітрук, карткі паперы, каляровыя алоўкі, слоўнікі.

1. Прывітанне.
2. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
3. Настаўнік ставіць вучням пытанне: З чым вам асацыюецца слова «старасць». Мазгавы штурм (вучні запісваюць свае прапановы).
4. Інфармацыя пра мастачку Маргарыту Дмітрук. Нарадзілася ў 1974 годзе ў Бельску-Падляшскім. Два гады вучылася ў Мастацкай акадэміі ў Мінску (факультэт графікі), а затым у Мастацкай акадэміі ў Варшаве. Цяпер сама там працуе. Займаецца графікай, жывапісам, праектаваннем адзення, ілюстрацыяй. Атрымала за сваю працу шмат узнагарод і прэмій. Прэзентавала свае графікі, тканіны, карціны на выставах па ўсім свеце.
5. Паказ прац Маргарыты Дмітрук.
6. Паказ 36 літаграфіі з цыкла «Тутэйшыя».
7. Выказванні вучняў на тэму пабачаных літаграфіі.
8. Падзел вучняў на групы па 3-4 асобы. У кожнай групе 2 літаграфіі Маргарыты Дмітрук з цыкла «Тутэйшыя» (напрыклад 4 і 5, 11 і 12, 13 і 14, 19 і 20, 28 і 29). Задача для кожнай групы: Прыдумаць літаграфіям загалоўкі. Расказаць пра жыццё герояў «Тутэйшых».
9. Прэзентацыя прац.
10. Настаўнік чытае вучням выказванні мастачкі: „«Тутэйшыя» гэта гісторыя маіх дзядулі і бабулі, *якія пражылі з собою 62 годы.* У згодзе і каханні. Прыходзіць час і адыходзіць дзядуля. Памірае натуральна. Дажыўшы 94 гады. Я свае 30 гадоў назірала за імі. Іх жыццём. Хатай. Іхняй вёскай. Я прасякла гэтым часам. Дэталямі. Кліматам. Назірала апошнія гады жыцця дзядулі, яго павольнае згасанне. У гэты час мой сусед, старэйшы чалавек у вялікім горадзе, таксама адыходзіў на заўсёды. Гэтае паступовае паміранне пры жыцці было паўсюль аднолькавае. Аднолькавае ў вёсцы і ў вялікім горадзе".
11. Размова з вучнямі на тэму выказвання мастачкі.
12. Інфармацыя пра Ларысу Геніюш.
13. Настаўнік чытае вучням верш «Дзед».

    *Была ў дзеда дудка,*
    *была ў дзеда люлька,*
    *была ў дзеда падружанька —*
    *сівая бабулька.*
    *Дудачка іграе,*
    *сэрца пацяшае,*
    *А закурыць дзедка люльку —*
    *гора забывае!*
    *Цешыць дзедка дудку,*
    *цешыць дзедка люльку,*
    *клапоціцца ля яго*
    *сівая бабулька.*
    *Ўсё суседзі хочуць знаць...*

*Раз, кругом пасеўшы,*
*сталі ў дзедачкі пытаць,*
*хто яму мілейшы.*
*Дзядок кажа — дудка,*
*бабка кажа — люлька...*
*Людзі думаюць сабе:*
*„Ой, мусіць, бабулька!..”*
*Ўсё ж ніхто не мог пазнаць*
*дзедавай натуры,*
*замест праўду адказаць —*
*толькі люльку курыць.*
*Ўсё ад раніцы гудзе,*
*ўсё на дудцы грае,*
*а на бабку — прыйдзе дзень —*
*ўвагі не звяртае.*

*Ўскалыхнуўся цэлы свет,*
*б'юцца людзі-брацця,*
*ціха толькі дзед жыве,*
*хваліць Бога ў хаце.*
*Толькі шчасце у людзей*
*доўга не трывае,*
*і да дзеда адзін дзень*
*смерць прыйшла ліхая.*
*Дзеда дома не было —*
*ён з дудой і люлькай*
*пайшоў рана на сяло,*
*пакінуў бабульку.*
*Бабка сцяміла, што ёй*
*смерць дзядочка скосіць...*
*Паківала галавой,*
*гэтак смерці просіць:*

*— Замест дзеда лепш мяне,*
*смерць, вазьмі, ліхая!..*
*Хай дзядок яшчэ жыве,*
*хай на дудцы грае!*
*Мае радасці ён тры,*
*я ж з усіх найменша,*
*дык мяне ты забяры —*
*дудачка пацешыць!*

*А для смерці ўсё адно:*
*душаньку хацела,*
*дзед ці баба ж не відно,*
*бо душа без цела...*
*Ды, забраўшы бабін дух,*
*паляцела далей,*
*бо другія ўжо наўкруг*
*на яе чакалі...*

*Ой, прыйшоў дзядок дамоў —*
*не жыве бабулька...*
*Не хапіла ў дзеда слоў,*
*пакацілась люлька...*
*— Ах, бабулька, — плача дзед, —*
*чаму ж не паждала?*
*Пацямнеў мне белы свет*
*як цябе не стала...*
*Сеў ён сумна ля акна;*
*заіграла дудка,*
*сумна плакала яна,*
*ды замоўкла хутка...*
*Ўжо не будзе болей граць,*
*люлька дагарэла...*
*Прыйшлі людзі ды глядзяць —*
*без душы ўжо цела...*
*Другім страшна паміраць,*
*дзед памёр іначай,*
*рады быў — не апісаць! —*
*ён бабульку ўбачыў...*
*Любіў дзедка дудку,*
*любіў дзедка люльку,*
*а мілей за ўсіх была*
*сівая бабулька.*

**14.** Выказванні вучняў пра ўражанні ад пачутага верша.

**15.** Вучні адказваюць на пытанні: Распавядзі, які быў дзед? Што можаш сказаць аб дзедавай бабульцы?

**16.** Вучні вызначаюць галоўную думку верша. Трэба накіраваць вучняў на тое, каб сказалі пра ўзаемаадносіны герояў, пашану, каханне, і г.д.

**17.** Падвядзенне ўрока: Чаму навучылі вас сённяшнія ўрокі? Абгрунтуйце свае адказы.

**18.** Развітанне.

# Урок беларускай мовы — VII клас

## Тэма: ВЫШЫВАНКІ -ВЫЖЫВАНКІ.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- ведаюць асобу і працы Руфіны Базловай,
- разумеюць сэнс працы мастачкі,
- ведаюць сімволіку вышытых прац,
- ведаюць сімволіку колераў вышыўкі,
- пашыраюць свой слоўнікавы запас звязаны з тэмай урока.

**Формы працы**:

- індывідуальная
- супольная

**Метады працы:**

- размова
- паказ
- імпрэсіўная
- экспрэсіўная

**Навучальныя дапаможнікі**: працы Руфіны Базловай, напрыклад:

https://www.facebook.com/permalink.php?id=1680128092204246&story_fbid =2657809907769388

https://joyreactor.cc/g/%D0%A0%D1%83%D1%84%D0%B8%D0%BD%D0%B0+%D0%91%D0%B0%D0%B7%D0%BB%D0%BE%D0%B2%D0%B0

https://daily.afisha.ru/brain/16805-poznakomtes-s-hudozhnicey-kotoraya-rasskazyvaet-o-protestah-na-vyshivanke/

Запіс пра акцыю #FramedinBelarus https://galeria-arsenal.pl/wydarzenia/warsztaty-framed-in-belarus-solidarity-stitching-inter-national-stitching-solidarity-sa-svietu-pa-nittsy-festiwal-przebudzonych.

1. Прывітанне.
2. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
3. Інфармацыя пра мастачку Руфіну Базлову. Беларуская мастачка народжаная ў Горадні, цяпер жыве і працуе ў Празе. Займаецца ілюстрацыяй, коміксам, мастацкай кнігай, лялечным мастацтвам, сцэнаграфіяй і перфарматыўным мастацтвам. Міжнародную вядомасць ёй прынёс цыкл „Гісторыя беларускай Выжыванкі", які выкарыстоўвае традыцыйную народную вышыванку як інструмент для апісання мірных пратэстаў, арганізаваных у Беларусі ў 2020 годзе. У 2021 годзе Руфіна Базлова з кураткай Соф'яй Токар стварылі арт-калектыў *Stitchit*. Іх мэта — аналізаваць і каментаваць актуальныя сацыяльна-палітычныя пытанні з выкарыстаннем традыцыйнай тэхнікі вышыўкі ў якасці інструмента супрацыву і дыялогу. *Stitchit* запрашае да ўдзелу ў творчым працэсе розныя супольнасці і асобных людзей.
4. Прэзентацыя прац мастачкі (іх шмат у інтэрнэце).
5. Выказванні вучняў на тэму пабачаных прац.
6. Настаўнік чытае вучням інфармацыю са старонкі Галерэі «Арсенал» у Беластоку пра акцыю #FramedinBelarus:
   «Мэта — расказаць гісторыю ўсіх незаконна асуджаных грамадзян і грамадзянак Беларусі, стварыць іх „партрэты" ў традыцыйнай тэхніцы беларускай вышыўкі — чырвонай ніткай на белым фоне — і такім чынам запісаць у памяці важны этап беларускай гісторыі, з выкарыстаннем культурнага кода, убудаванага ў дэкаратыўныя народныя ўзоры.

   Вышыўка — гэта працаёмкі і медытатыўны досвед, які спрыяе засяроджванню думак і пачуццяў на лёсе выбранага палітычнага зняволенага. Час — гэта тое, чаго пазбаўляюць людзей у турмах — і менавіта гэты час мы прыносім як сціплую ахвяру, працуючы над „партрэтам" асуджанага.

   Вышываныя палотны становяцца скарочаным запісам гісторыі зняволення — імёны зняволеных і атрыбуцыі крымінальных спраў пазначаныя ў верхняй частцы прац. Сама акцыя носіць характар сацыяльнай кампаніі. Мастачка змяшчае схемы вышывак на сваім сайце, заахвочваючы іншых далучыцца да творчага працэсу. Кожны новы ўдзельнік атрымлівае інструкцыі па вышыўцы, адрас папраўчай установы, у якой знаходзіцца зняволены, і інфармацыю пра сайты, праз якія можна падтрымліваць зняволеных.
   У вышываных сюжэтах можна заўважыць, як з турэмных муроў абсыпаюцца камяні, — і гэта прадвесце надзеі. Улічваючы агульны кантэкст акцыі, можна лічыць, што сумесныя дзеянні з'яўляюцца ключавым кампанентам шляху да свабоды.

   У выніку распачатай акцыі паўстане лапікавае палатно, створанае з усіх вышытых гісторый — адчувальны сімвал непарыўных сувязей палітычных падзей з чалавечым лёсам".
7. Паказ запісу пра акцыю #FramedinBelarus.
8. Падвядзенне ўрока. Прапанова выканання вышыванак на аснове прац Руфіны Базловай.
9. Развітанне.

**Сцэнарыі ўрокаў** Урок беларускай мовы — VIII клас (2 гадзіны )

# Тэма: БЕЛАРУСКІ РУЧНІК – СЦЕЖКА ЖЫЦЦЯ.

**Мэты ўрока:**

Пасля ўрока вучні:

- ведаюць значэнне ручніка ў беларускай традыцыі і абраднасці,
- ведаюць сімволіку ручніка,
- ведаюць сімволіку колераў,
- пашыраюць свой слоўнікавы запас звязаны з тэмай урокаў,
- ведаюць асобу і працы Міраслава Здрайкоўскага.

**Формы працы**:

- індывідуальная
- супольная
- групавая

**Метады працы:**

- размова
- практыкаванні
- гульня
- імпрэсіўная
- экспрэсіўная

**Навучальныя дапаможнікі**: тэкст Эвы Звежыньскай са штоквартальніка «Краіна Бугу» (10/2014) пра ручнік[1], рэпрадукцыі прац Міраслава Здрайкоўскага https://culture.pl/pl/galeria/miroslaw-zdrajkowski-malarstwo-galeria, папера, каляровыя алоўкі, маркеры.

[1] E. Zwierzyńska, *Los wyhaftowany na płótnie*,„Kraina Bugu", 2014, nr 10, https://krainabugu.pl/los-wyhaftowany-na-plotnie-czyli-historia-recznika-obrzedowego/?fbclid=IwAR2kXLv5KlJzOY2pmUZKkDhl2I032K9ecVS-2J0nFXHvDvyXFF1tK4dDKzx8 [доступ: 10.11.2022].

1. Прывітанне.
2. Інфармацыя пра тэму заняткаў.
3. Падзел вучняў на пяць груп. Кожная група атрымлівае частку тэксту Эвы Звежыньскай пра ручнік. Задача для кожнай групы: Прачытаць свой тэкст і расказаць астатнім групам.

**1 група**

**Ад стагоддзяў ён спадарожнічае чалавеку — з раніцы да вечара, у будні дзень і ў свята, ад нараджэння да магілы. Некалі прысутны ў кожнай хаце, цяпер зрэдку бачны на іконах у царкве або ў праваслаўнай вясковай хаце ва ўсходняй Польшчы. Ці, глядзеўшы на кавалак белай льняной тканіны, вышытай каляровымі ніткамі, разумеем, што маем дачыненне да магічнага прадмета, поўнага таямніц і глыбокага сэнсу?**

Аб вялікім значэнні ручніка ў жыцці нашых продкаў сведчыць славянская легенда аб тым, як зямля папала ў зімовую спячку. Усе вужакі і паўзуны выходзілі ў той час з Вураю. Усе людзі, якім хапала адвагі, маглі пайсці ноччу ў лес, каб пабачыць гэты паход, які ўзначальваў Вуж-Кароль у залатой кароне на галаве, што было сімвалам мудрасці і сілы. Нашы продкі раілі: не праваронце гэты момант, рассцілайце ручнік, падайце на калені і пакланяйцеся. Вуж-Кароль зніме сваю карону і перадасць яе вам, а з ёю сакрэтныя веды пра сусвет, здольнасць празорлівасці і разумення мовы прыроды. Менавіта гэтыя таемныя веды, код жыцця і сусвету, замовы, просьбы і мары, а таксама расповеды пра сваё жыццё вышывалі нашы бабулі на непрыметным льняным палатне, аддаючы яму ўсю сваю душу.

**Ручнік як Млечны Шлях**

Не ва ўсіх ручніках быў гэты глыбокі сэнс. Гэтыя звычайныя, штодзённыя, гладкія або тканыя ў пару папярочных палосак, былі простыя і амаль без упрыгожанняў. Іх выкарыстоўвалі ў хатніх занятках — імі выціралі рукі і посуд, прыкрывалі хлеб на стале або ежу, якую насілі ў поле. Абрадныя ручнікі выкарыстоўвалі ў час свят і сямейных урачыстасцей, прыносілі іх у ахвяру або выкарыстоўвалі ў час магічных рытуалаў. Такія ручнікі найчасцей ткалі ў час посту, калі душы ачышчаліся ад зямнога бруду і асвечаныя імкнуліся яднацца з Богам. Вышываны ўзор быў не толькі аздабленнем, але паказчыкам зашыфраваных сэнсаў. Вясковыя жанчыны, якія не ўмелі чытаць ні пісаць, з дапамогай графічных знакаў вышывалі на ручніках цэлыя расказы. Ручнікі былі нібы кніжкі, напісаныя малюнкавым пісьмом. Адна з народных майстрых вышывальніц распавядала:

— Я непісьменная. Уся мая навука, мая адукацыя ва ўзорах на маіх ручніках. Там, як у добрай кніжцы або ў кіно, можна даведацца пра людзей і пра звяроў. І пра сонейка, і зоркі я расказвала, пра здароўе і хваробу, пра жаночую долю і нядолю, і пра ўсё ў жыцці.

Жанчыны, ткаўшы і вышываўшы, клалі ў ручнік частку сваёй душы, распавядалі пра свае мары, часта шапталі словы малітвы або замовы, якія сімвалічна перапляталіся з ніткамі, таму ручнік набіраў незвычайнай моцы. Пра

асаблівую ролю абрадавых ручнікоў сведчыць спосаб іх захавання ў шафе. Звычайныя ручнікі складалі ў прамавугольнік, абрадавыя ручнікі звівалі ў рулоны, як старажытныя манускрыпты.

Сімволіка ручніка нараджалася ў час пражы нітак. У міфалогіі нітка ўвасабляе жыццё чалавека — «нітка жыцця». Традыцыя, якая вяжа вобраз прадзення ніткі з чалавечым лёсам характэрная многім культурам. Ужо само значэнне слова «матэрыял», якое называе тканіну вытканую з пражы, у перакладзе з латыні абазначае «маці, жаночасць». Ткацтва як рамяство характэрнае багатай сімволікай. Яго правілы напамінаюць прынцыпы, паводле якіх дзейнічае космас. У міфалогіі розных народаў усе багіні лёсу і часу гэта жанчыны, якія прадуць і ткуць. У старажытным Егіпце гэта была Ісіда — багіня мастацтва і рамяства, старажытныя грэкі лічылі, што ткацтву навучыла іх Афіна — багіня мудрасці і справядлівай вайны, а рымляне прыпісвалі гэты дар Мінерве. На Русі абавязкі апякункі ткачых выконвала святая Параскева-Пятніца. Нават Божую Маці ў хрысціянскай культуры паказваюць на старых гравюрах з ільном і верацяном. Жанчына-прадзільшчыца, у руках якой з хаатычнай льняной пражы паўстае нітка, паўстае як дэміург, стваральніца чалавечага лёсу. Гэта нагадвае стварэнне новага сусвету. Нітка, якую спіральна навіваюць на верацяно, напамінае тканку космасу, з якога затым узнікае новая, упарадкаваная структура — тканіна. Сама форма ручніка — падоўжаная паласа матэрыялу — вобраз дарогі. Стараліся, каб тканы ручнік сваёй даўжынёй адпавядаў росту чалавека, а бывала быў у два або і тры разы даўжэйшы. Як і жыццё чалавека ў ручніка быў свой пачатак і канец, між імі — уся жыццёвая дарога, якую прабываў ад нараджэння да смерці.

Старажытныя славяне верылі, што кожны з нас вандруе дарогай свайго лёсу як Млечным Шляхам, а яго вобраз — ручнік з белага палатна. Млечны Шлях гэта не толькі наша зямная пілігрымка — ён вядзе нас да неба, за смерць. Гэта нябесны мост, па якім вандруюць не толькі жывыя, але і памерлыя. Па ім душы продкаў змогуць сысці з замагільнага свету на зямлю. Таму менавіта ў свята Дзядоў адчынялі акно і перавешвалі белы ручнік — так дапамагалі духам продкаў вярнуцца дадому, каб яны маглі павячэраць з сям'ёю.

**2 група**

**Ад калыскі да магілы**

Чарговыя сімвалы, запісаныя ў ручніку, гэта мяжа, граніца і парог. Ручнік прысутнічаў у кожным пераходзе з аднаго этапу жыцця ў наступны. Граніцы былі неўралгічнымі пунктамі, перасяканне якіх было звязанае з небяспекай. Абрадавы ручнік дапамагаў адолець усе цяжкасці. Першы кантакт чалавека з ручніком быў пры яго народзінах. У час родаў жанчына, каб дапамагчы сабе ў болі, перавешвала ручнік праз бэльку ў столі і цягнула яго канцы. Нованароджанае дзіця адразу ахутвалі ў новы чысты ручнік. Важны момант гэта першае купанне, якое змывала з дзіцяці ўсё з «таго» свету і прымала яго ў «новы». Памытае немаўля абмотвалі белай пялюшкай і перавязвалі ручніком з далікатнага тонкага палатна.

Чарговая значная падзея ў жыцці чалавека — шлюб. У час вясельнага абраду ручнік выконваў рытуальную ролю аб'яднання двух пачаткаў:

мужчынскага і жаночага, дзвюх сем'яў, двух родаў. Ніводная частка вяселля не магла абысціся без ручніка. Ужо ў моманце падрыхтоўкі да шлюбу нявеста павінна была саткаць некалькі ручнікоў у свой пасаг. На аснове яе ткацкіх умеласцей ацэньвалі яе здольнасці справіцца з абавязкамі гаспадыні. Новым ручніком яна адорвала ўсіх самых важных вясельных гасцей з боку мужа, а таксама сведкаў. Напярэдадні шлюбу, у суботу вечарам, запрашалі на ўрачыстую вячэру, у хату маладой, вясельнага маршалка. Маршалак перад вячэрай мыў рукі, а маці маладой давала яму ручнік, якім ён іх выціраў, затым забіраў ручнік як падарунак. У дзень шлюбу маладыя сімвалічна пераходзілі раскладзены на зямлі ручнік, а таксама стаялі на ім у царкве падчас шлюбу. Ручніком вязалі рукі маладых у час шлюбнай прысягі. Маладая несла шлюбную ікону ахінутую вышываным ручніком, затым вешала яе ў мужавай хаце. Ручнік павінен вісець на ёй да Вялікадня або Каляд. У час вяселля маладыя сядзелі на засланым ручніку. Іншы раз маршалак сімвалічна перавязваў маладых адным ручніком.

Апошняя граніца — смерць. Калі паміраў член сям'і, адчынялі акно і вывешвалі ручнік. Для жывых гэта была інфармацыя пра смерць, а для душы памерлага гэта быў знак, які дапамагаў выбрацца на «той» свет. У дзень скanання ручнік вязалі на іконе завешанай пры ўзгалоўі ложка нябожчыка. Пакідалі яго на сорак дзён, у час якіх — як верылі — душа яшчэ тут. Пасля гэтага часу можна было яго зняць і памыць. Лічылі, што ў ім жыве дух памерлага. Ручнік вешалі на пахавальным крыжы, які праводзіў нябожчыка на могілкі. Пасля пахавання ручнік аддавалі ў царкву. На Падляшшы, яшчэ ў васьмідзясятыя гады XX ст. бывала, што неслі труну на ручніках, потым на іх спускалі яе ў магілу, у якой заставаліся назаўсёды. Ручнік абавязкова клалі ў труну, ахутвалі ім нябожчыка.

Анна Фёнік са Студзіводаў на Падляшшы, этнамузыкаложка і кіраўнічка народнага гурта «Жэмэрва», правяла дзяцінства ў ваколіцы Бельска-Падляшскага. Так памятае абрадавы ручнік:

— Я з пакалення, якое жыло ў гарадской прасторы. Уласна кажучы, не памятаю з дзяцінства, каб у нашай хаце карысталіся абрадавымі ручнікамі. Адзіным месцам, у якім я іх сустракала, была царква, — распавядае. — Падчас набажэнства епіскап абмываў рукі і выціраў іх вышываным ручніком. Нешта кшталту ручніка памятаю таксама са шлюбаў, калі маладыя стаялі на прамавугольным куску белага палатна, але на ім не было вышытых арнаментаў. У Міхайлаўскай царкве ў Бельску-Падляшскім, як у адзінай, засталіся іконы, прыбраныя вышытымі ручнікамі. У астатніх замест іх — фіранкі. Мая мама расказвала, што ў часы яе маладосці аперазалі вясельнага маршалка ручніком, а нават двума, каб падкрэсліць яго незвычайную ролю. На ручніку клалі абрадавае цеста — вясельны каравай. Неслі на ім таксама труну памерлага дзіцяці. Нашага брацiка, які памёр немаўляткам, жанчыны неслі на вышываных ручніках у царкву.

Ручнік меў вялікае значэнне ў час палявых прац. Гаспадар, у час вясновай сяўбы, выходзіў у поле падпяразаны ручніком, на якім завешваў пасудзіну са збожжам. Першы зрэзаны сноп жыта таксама аперазалі ручніком. Ахутвалі ў яго спечаны хлеб, прыкрывалі ім дзежку з рашчыненым хлебам. У дзень святога Юр'я ўся сям'я ішла ў поле, несучы на ручніку каравай, які качалі ў збожжы, каб забяспечыць ураджай.

**3 група**

**Крыніца дабра і шчасця**

Сярод многіх сімвалічных значэнняў самым важным здаецца ўспрыманне яго як ачагу дабра і вера ў яго цудадзейныя ўласцівасці. Ручнік меў гарантаваць чалавеку шчасце, мір, дастатак і здароўе. У гэта верылі ўсе славяне. Аберагальна-магічныя ўласцівасці ручніка залежалі не толькі ад якасці палатна і спляцення, але ж і ад колераў і арнаментаў. Першабытнымі колерамі былі белы і чырвоны. Даўным-даўно толькі іх выкарыстоўвалі ў абрадавых тканінах. Чырвоны колер увасабляў узыходзячае сонца, агонь, энергію і жыццё. У спалучэнні з адпаведным узорам набіраў магічнай моцы. Чырвонай вышыўкай упрыгожвалі два канцы ручніка, вытканага з белага палатна. Белы колер гэта сімвал вечнасці, бязмежнасці, смутку, а таксама нерухомасці. У даўнія часы ён быў колерам жалобы.

Менавіта на белым ручніку стаялі ў царкве маладыя, на яго белых частках апускалі ў магілу труну, хапаючы ў рукі чырвоныя канцы, белая частка ручніка атульвае ікону — сферу належную Богу і вечнасці, вышытыя канцы ападаюць долу. Толькі напрыканцы XIX ст. на ручніках з’явіліся іншыя колеры: чорны, жоўты, сіні, але не было ў іх ніякага значэння.

Самыя архаічныя ўзоры на абрадавым ручніку гэта геаметрычныя кампазіцыі. Ці гледзячы на вышытыя ромбы, трыкутнікі, крыжы і зоркі, бачым, што яны напамінаюць іерогліфы? Падобныя знакі знаходзілі на гліняных пасудзінах і прадметах, што дабывалі ў час археалагічных раскопак. Так людзі набылі веды аб тым, што ў сваяцкіх групах плямёнаў былі свае радавыя знакі, якімі ўпрыгожвалі прадметы і тканіны. Іх значэнне можна параўнаць да шляхецкіх гербаў або бортніцкіх знакаў, якімі пчаляры значылі свае пасекі. На тканінах і абрадавых ручніках таксама былі радавыя сімвалы, якія спалучалі сям’ю з продкамі. Частку таямніц даўнія вышывальніцы забралі з сабою ў магілу, а сэнс іх арнаментаў можа ўжо назаўсёды будзе для нас таямніцай. На шчасце, да нашых часоў дайшлі інфармацыі, дзякуючы якім адкрываем сэнс многіх старажытных вышытых на ручніках арнаментаў. Да іх належалі вобразы Сонца, Маці-Зямлі, ураджаю (Жыцень, Спарыш, Багач), старажытных багоў, такіх як Ярыла, Пярун, вобразы свят, продкаў, язычніцкай міфалогіі.

Самым характэрным знакам вышытым на ручніках быў ромб, які выкарыстоўвалі ўжо ў XI-XII стст. Сведчаць аб тым рэшткі тканін, якія знайшлі ў курганах. Старажытны ромб — сімвал дабра і жыцця. Быў асновай для шматлікіх варыянтаў знакаў. Звычайны ромб гэта сімвал поля і хлеба, а гэты з вонкавымі прамянямі — сонца, з прамянямі ўнутры — зямлі. Спалучэнне сонца і зямлі гэта сімвал жыцця. Часта вышывалі яго на ручніках за аздараўленне хворых. Жанчыны, якія не маглі дачакацца дзіцяці, вышывалі вобраз Маці-Радзіцельніцы, дзіцяці або Параскевы-Пятніцы, якая дапамагала ў выпадку бясплоднасці.

— У мяне двое старэйшых дзяцей памерла, — расказвае жыхарка маленькай вёскі з-пад Берасця. — Баюся, каб і Соня не памерла. Я вышыла два ручнікі з узорам дзіцяці. Адзін занесла ў царкву і павесіла на ікону Божай Маці, другі на магілу дзядулі.

У час засухі жанчыны збіраліся на супольныя малітвы і ткалі на ручніках сімвалы дажджу, а потым аддавалі іх у царкву. На вайну, эпідэмію

і неўраджай у гаспадынь былі свае спосабы. Каб пазбегнуць заразы, усе жанчыны з вёскі збіраліся вечарам і за адну ноч павінны выткаць і вышыць ручнік, з якім кругом абыходзілі вёску, затым закопвалі яго ў зямлю. Іншы спосаб — звязаць ручнікі і імі абгарадзіць вёску. Такое адбылося ў вёсцы Калінкавічы на Палессі. У 1920 г., пасля вайны, рэвалюцыі і знішчэнні палёў паўсотні дзяўчат і жанчын з вёскі паслухалі парады старавінкі і за адзін дзень вышылі ручнік з шыфраваным зваротам да Бога, просьбай аховы ад голаду, хваробы, вайны і ўсякага няшчасця. Кожная жанчына вышыла сваю просьбу. У 1935 г. пашанцавала знайсці ўсяго адну з гэтых жанчын, яна рассакрэціла сімволіку арнаментаў. На ручніку былі сімвалы Маці-Багіні, Каляд, Купалінкі, Дрэва жыцця, а таксама просьбы аб шчасці, здароўі, сям'і.

Падобнае праходзіла ў многіх вёсках на Падляшшы і Палессі.

— У цэнтры Студзіводаў стаяць тры крыжы, — распавядае Анна Фёнік. — Адзін з іх паставілі з намерам пазбавіцца заразы. Аднаму чалавеку прыснілася так, каб вызваліць вёску, мужчынам трэба за адну ноч паставіць крыж, а жанчынам саткаць палатно шырынёй ручніка. І ім пашанцавала. Зараза абмінула вёску.

**4 група**

**Ручнік на каханне**

Як у кожны час і паўсюль вялікай папулярнасцю карысталіся сімвалы кахання. Уяўлялі яго ў вобразе кветак, часцей руж, а таксама пары галубоў. Беручы пад увагу тое, як галубы размешчаны адносна сябе, ацэньвалі ўзаемаадносіны пары. Галубы павернутыя адзін да аднаго дзюбкамі абазначалі шчаслівае каханне, адвернутыя задам — нешчаслівае каханне. Адзін голуб ідзе за другім — пачатак кахання. Так пра свае перажыванні расказвае 80-гадовая жыхарка беларускай вёскі:

— Калі мне было 17 гадоў я закахалася ў Паўліка. У яго былі светлыя валасы і сінія вочы, ён мне вельмі падабаўся і быў добры. Мне параілі вышыць ручнік з голубам і галубкаю. Калі Паўлік даведаўся аб гэтым, прыслаў да мяне сватоў і мы пажаніліся. Во якое шчасце далі мне гэтыя галубы. Але прыйшла бяда. У мяне быў хворы жывот, я не магла нарадзіць дзяцей. Пытала ў бабак, што мне рабіць. Параілі мне вышыць Маці-Радзільніцу і Дрэва жыцця. Пасля гэтага мне перастаў балець жывот і я нарадзіла дзяцей, была шчаслівая.

Па сённяшні дзень у вёсках усходняга Палесся існуе абрад вязання ручнікоў як ахвяры на прыдарожных крыжах, найчасцей каб выздаравець або нарадзіць дзяцей. Вешаюць на іх не толькі ручнікі, але і фартухі, і каляровыя хусткі. Палатна не забіраюць з крыжоў, таму на працягу часу прыбываюць чарговыя пласты з чарговай тканіны, напамінаючы вобраз жанчыны. Такое адбываецца і з намагільнымі крыжамі — на магілах жанчын вешаюць фартухі, на магілах мужчын — ручнікі. Некаторыя палескія могілкі нагадваюць запусцелыя вёскі. Прысутнасць памерлага члена сям'і асабліва важная ў час Радуніцы, якая прыпадае дзевяць дзён пасля Вялікадня. Пасля набажэнства ў царкве і асвячэння магіл, сем'і сядаюць побач магіл сваіх родных і частуюцца ежай. Паўсюдна верацъ, што мяжа між светам

памерлых і жывых у гэты дзень настолькі кволая, што памерлыя змогуць пранікаць праз яе і прымаць удзел у супольнай бяседзе. Падрыхтаваную ежу раскладаюць на вышытых ручніках, а крыжы прыбраныя ручнікамі і фартушкамі сімвалізуюць прысутнасць тых, якія адышлі.

Самае важнае месца ў кожнай вясковай хаце — «святы кут», у якім віселі іконы. Называлі яго покуць. Іконы і святыя абразы абавязкова вязалі багата аздобленымі ручнікамі. Ужо тысячы гадоў хрысціянскія іконы гарманічна суіснуюць з ручнікамі, але ў ручніка яшчэ старэйшы, язычніцкі радавод. Покуць у дахрысціянскія часы была хатняй святыняй, у якой звярталіся да ідалаў і духаў продкаў. Гэтае месца выдзялялі заслонай, ручніком, які раздзяляў святое ад прафанум. Хрысціянства знішчыла статуэткі ідалаў, а вышываны ручнік павандраваў на святыя абразы.

**5 група**

**Туга па традыцыі**

Дваццатае стагоддзе прынесла шмат змен, ручнікі памалу пачалі знікаць з сялянскіх хат і святых абразоў, памяняліся іх колеры і арнаменты. Старая вышыўка крыжыкам і ткацкія пэрэборы ўступілі месца гладзі і рышэлье. Памаленьку адышлі ад старажытных знакаў, заступіўшы іх кветкамі, раслінамі, якія былі чыста дэкаратыўныя. На ручніках з'явіліся цэлыя вазоны са шматколернымі кветкамі, птушкамі, вінаградам, раслінамі. Гэтыя змены адбываліся перш за ўсё ў трыццатыя гады XX ст. пад уплывам двара і касцёла. У той час амаль зніклі чырвоныя геаметрычныя арнаменты. Пачалі выкарыстоўваць гатовыя фабрычныя шаблоны, ручнікі ў розных рэгіёнах уніфікаваліся і пазбягалі сваіх асаблівасцей. Тканыя і вышываныя рукамі пачалі замяняць фабрычнымі з каляровымі штампамі.

— На жаль, традыцыя выкарыстоўвання вышываных ручнікоў у нашым рэгіёне амаль прапала, — кажа Анна Фёнік. — Некалі можна было яшчэ сустрэць іх на іконах у хатах. На прыдарожных і магільных крыжах замест іх вісяць каляровыя стужкі і вянкі са штучных кветак. На шчасце, у вясковых хатах застаецца яшчэ даволі многа ручнікоў, пахаваных у шафах і сундуках.

У маёй хаце захаваліся яшчэ ручнікі тканыя бабуляю, вышываныя чырвонымі і чорнымі ніткамі ў геаметрычныя ўзоры. У нас таксама ручнікі, якія нам падаравалі, сучасныя, вышытыя на канве каляровымі ніткамі. Лепш гэта выглядае на Палессі за ўсходняй мяжой. Гэта сапраўдная скарбніца традыцыі звязаных з ручніком. Тканыя і вышываныя ручнікі відаць паўсюль, у кожнай меншай ці большай мясцовасці. Яны прысутныя ў цэрквах, хатах, на магільных крыжах. Па сённяшні дзень перавязваюць імі вясельных дружбантаў. У Моталі і Бездзежы можам наведаць музеі прысвечаныя абрадавым ручнікам, — падказвае Анна Фёнік.

Цяперашні час не спрыяе захоўваць традыцыі, нашы патрэбы мяняюцца, мы ўжо не так і звязаны з адвечнымі абрадамі. Ці справа ручніка безнадзейная? Сям'я Фёнікаў са Студзіводаў не губляе надзеі:

— У час зацікаўлення народнай культурай і этнаграфіяй вышываныя ручнікі пачалі ўсё часцей з'яўляцца ў нашай хаце. Мы павесілі іх на іконы, пачалі карыстацца імі ў час многіх сямейных абрадаў і свят. Ужо шмат гадоў

ходзім з імі на наша поле ў дзень св. Юр'я, каб тры разы абкружыць поле з іконай і караваем на ручніках. Спяваем традыцыйныя песні, молімся, каб Бог асвяціў і блаславіў нашу сяўбу. Сёння ўжо не ўяўляем жыцця без вышыванага ручніка.

**4.** Пераказ зместу тэксту кожнай групай.

**5.** Размова на тэму значэння ручніка ў беларускай абраднасці.

**6.** Прэзентацыя прац Міраслава Здрайкоўскага.

**7.** Размова на тэму прац мастака з цыкла «Ручнікі». Сімволіка сучасных «ручнікоў».

**8.** Вучні робяць праект свайго ручніка (у групах або індывідуальна).

**9.** Прэзентацыя прац і падвядзенне ўрока.

**10.** Развітанне.

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Яланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі
**Рэдактар:** Мікола Ваўранюк

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі,
якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji**